PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (2153) Год XLII Беласток 17 жніўня 1997 г. Цана 1 зл.

# Гісторыя патрэбная для душы

Ганна Кандрацюк

**— Ой, каб вы дзетачкі здаровыя былі! — звычайна развіталіся вяскоўцы. — Што не ганьбавалі намі, старэчамі, што пацікавіліся нашым лёсам.**

**Пра бежанства людзі расказвалі шчыра і займальна. Не толькі каб пераказаць свае веды і вопыт, але і дагадзіць зацікаўленай моладзі.**



*На першым плане „Сонейка" рэйду.*

Лета — выдатная пара для гістарычных і этнаграфічных рэйдаў. Хопіць завітаць у вёску. І як заўважылі многія ліцэісты, найлепш калі вёска далёка ад галоўнай дарогі. Там можна сустрэць старажылаў, якія звычайна сядзяць на лавачках і успамінаюць старыя часы. У Дэніскax зразу згаварыліся з бабуляй, якая перажыла бежанства. На жаль, забыла яна месца перасялення. У яе памяці жывуць фрагменты ўспамінаў з сібірскай мясціны, рэвалюцыя — калі чырвоныя давалі бежанцам хлеб і вяртанне на святую радзіму.

— Чаму вярталіся? — здзіўляецца пытаннем бабка. — Бацькаўшчына салодкая! У Расіі не толькі я, але і мае дзеці былі б бежанцамі. А на радзіме чалавек заўсёды чалавекам будзе.

Сям'я бабулі частуе нас яблыкамі. На небе зыходзяцца цёмныя хмары.

— O, kurcze, nie będzie rożna, — хвалююцца бабчыны госці, сям'я з Бельска-Падляшскага.

На вуліцы раздаецца грукат трактара. Вяскоўцы захапілі перад даждҗом вялікі воз духмянай атавы.

У Вольгі Гуралеўскай перачакалі мы буру. Цётка яшчэ не старая, але ведае песні прабабак.

— Нашы песні, *свуйскія*, да вайны спявалі. Пасля пачалі захапляцца расейскімі і такімі накшталт „Распрагайце, хлопцы, коней".

— Ой, як ты прыгожа гаворыш, — кажа Томку Саевічу цётка Волька. — Ты пэўна з-пад Гарадка будзеш.

Нашай субяседніцы вельмі ж падабаецца літаратурная беларуская мова.

— Такая мілая, далікатная, прывабная, — пералічвае яна ўсе рысы пачутай мовы.

Многія ліцэісты хаця і родам з Падляшша, лепш адчуваюць сябе карыстаючыся беларускай літаратурнай мовай. Дыялект для іх цяжкі і нескладны. А з людзьмі з вёскі лепш па-польску не гаварыць. Няма шчырай размовы. Дарафей Фіёнік успомніў, як у Канюках пятнаццаць хвілін змагаліся з бабуляй. Бабка, палічыўшы наведвальнікаў іегавістамі, адказвала службова па-польску. Пазней, калі ўжо ўпэўнілася, што гэта бескарысныя бадзягі, расказала пра бежанства.

* * *

Адпачынковы асяродак непадалёк Войшак. За агароджай рака Нарва.

— Jest cudownie. To jeden z najlepszych obozów, na jakich byłam. Nie ma czasu na nudy, — кажа Агнешка Кулачэўская.

Агнешка не ўмее яшчэ выяўляць эмоцыі на беларускай мове. Як большасць яе аднагодкаў з Гайнаўкі.

— Мы, — свядомыя беларускі, — кажа Эдыта Чапко. — Мой дзедка заўсёды гаварыў і выхоўваў мяне на беларуску. Пазней напаміналі аб гэтым дзядзька, бацькі, а зараз — беларускі ліцэй.

Пасля гэтых слоў Эдыта зноў пераходзіць на польскую мову.

— Цяпер, пасля рэйду, я ведаю, што больш люблю гісторыю, — заяўляе Агнешка.

Разам з Эдытай хоча яна паступіць на медыцынскі факультэт. Гісторыя, асабліва тая, якую перажылі іх продкі, больш патрэбная для душы і самаадукацыі.

— Я нават не падумала, што ў ліцэі навучуся польскай гісторыі, — кажа Ася Масайла. — На гэта за навукай няма проста часу.

Апрача гісторыі бежанства Ася заваражылася пачутымі песнямі.

— У іх столькі праўды пра жыццё. І якая мелодыя цудоўная, — канчае думку праменнай усмешкай. За свае ўсмешкі Ася мае мянушку „Сонейка".

[працяг ☞ 5]



*Бабуля з Дэнісак расказвае Тамашу і Юліце пра бежанства.*

## У нумары

# Мы прачыталі

*Три года назад был избран первый президент Республики Беларусь Александр Григорьевич Лукашенко. Прошло три года светлой веры в лучшее. С этой верой мы продолжаем жить и работать, надеяться...*

*Народная газета, н-р 136*

Это очень прекрасно, что советский народ не теряет веры в лучшее. Всего вам хорошего, таварищи. Сто лет жизни с Александром Григорьевичем желаем вам.

* * *

*Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Іван Антановіч сказаў, што за тры гады прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі Беларусь пашырыла свае дыпламатычныя прадстаўніцтвы, актывізавала свой удзел у міжнародных арганізацыях. Да Беларусі і яе прэзідэнта праяўляецца цяпер у свеце вялікая, шчырая цікавасць і прыхільнасць,* — інфармуе грамадзян Беларусі прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 124*

* * *

*Na Białorusi gwałtownie spada liczba bezrobotnych. Z list w biurach pośrednictwa pracy skreśla się osoby, które odmawiają udziału w przymusowych robotach publicznych wprowadzonych przez prezydenta Łukaszenkę. Jeżeli bezrobotny nie wykona miesięcznej normy zamiatania ulic lub układania krawężników, odbiera mu się zasiłek i skreśla z listy. Wyznaczonego odcinka robót przy zamiataniu ulicy nie wykonała ostatnio deputowana rozwiązanej przez Łukaszenkę Rady Najwyższej Ludmiła Griaznowa. W imieniu państwa białoruskiego podpisywała ona przed dwoma laty międzynarodową konwencję o zakazie pracy przymusowej.*

*Gazeta Wyborcza, nr 169*

* * *

*Раб, які стаміўся ад свабоды, зноў патрабуе ланцуга,* — адкрыла рэдакцыя месячніка

*Беларусь, н-р 6*

* * *

*Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, н-р 387: Аб назначэнні палкоўніка Уладзіміра Пятровіча Замяталіна намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. (...) Замяталін нарадзіўся ў 1948 г. у г. Тула, па нацыянальнасці — рускі. Закончыў ваенна-палітычную Акадэмію імя У. І. Леніна. Быў начальнікам арганізацыйнага аддзела палітуправлення. У 1995 г. працаваў у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*Народная газета, н-р 140*

Новая прыкмета суверэннасці — на найвышэйшыя пасты краіны назначаюцца афіцэры спецыяльных службаў суседняй дзяржавы.

* * *

*Polskę południowo-zachodnią może obecnie zalać druga brudna fala — korupcji, kradzieży, kosztów przy odbudowie. To byłaby prawdziwa klęska, mniej widoczna, ale bardziej widoczna od żywiołowej. Nasze państwo jest przeżarte korupcją i nikt jej dotychczas nie potrafił rzucić wyzwania. Teraz może być tak, że na nieszczęściu powodzian urosną fortuny nieuczciwych urzędników i cwanych biznesmenów.*

*Kurier Poranny, nr 171*

* * *

*Unia Pracy wystawia na swych listach Eugeniusza Wappę, przewodniczącego Związku Białorusinów RP, dyrektora liceum z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim,* — пішы вядомы каментатар палітычнага жыцця на Беласточчыне Мацей Халадоўскі.

*Gazeta w Białymstoku, nr 171*

Яўгена Вапу віншуем з павышэннем, а газету — з добра зарыентаваным журналістам.

* * *

*Lud powiada, że powódź jest zesłana przez Papieża — by wzburzyć umysły przeciwko Brunatnej Koalicji. Można starać się o inne interpretacje. Na przykład podnosimy wielki krzyk, bo władze ukraińskie zaniedbują polski cmentarz we Lwowie. Natomiast niemieckie cmentarze we Wrocławiu zostały kompletnie zdewastowane, a na ich miejscu zrobiono parki. Właśnie niedawno Rada Miasta postanowiła na terenie cmentarza niemieckiego (zwłoki ciągle leżą pod ziemią) wybudować plac zabaw. Dzielnica nazywa się Kozanów. Akurat ona została najbardziej zalana. W Piśmie Świętym powiedziane jest, że „będą znaki na Niebie i Ziemi". Więc są!*

*Najwyższy Czas, nr 29*

* * *

*Mieszkanka Gorzowa napisała w 1952 r. antyrządowe hasło na drzwiach toalety w miejscu pracy. Teraz domaga się przywilejów kombatanckich. Sąd Wojewódzki z całą powagą skwalifikował napis na drzwiach ubikacji damskiej jako „sprawę polityczną, związaną z działalnością na rzecz niepodległego bytu Państwa Polskiego".*

*Blednie pamięć ludzka, żółkną i giną akta sądowe, więc mnożą się próby rehabilitacji, połączone z wyciąganiem pieniędzy od Rzeczypospolitej. Ktoś przedstawia się jako niepodległościowy konspirator w ludowym wojsku, a w rzeczywistości został skazany za kradzież majątku. Ktoś inny postrzelił znajomego po pijanemu na wiejskiej zabawie, a wydarzenie to przedstawia dziś jako walkę z UB. Zwykła bandycka kradzież koni, garderoby, obuwia przedstawiana jest jako czyn patriotyczny.*

*Polityka, nr 30*

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын** выказаў здзіўленне і абурэнне сітуацыяй, якая склалася вакол расейскіх журналістаў на Беларусі, арыштаваных і абвінавачаных уладамі гэтай краіны ў нелегальным пераскачэнні беларуска-літоўскай мяжы. Шэф Беларускага бюро тэлекампаніі ОРТ у Менску **Павел Шэрэмет** з двума супрацоўнікамі рабіў рэпартаж з беларуска-літоўскай мяжы, у якім, каб даказаць, што на практыцы яна не ахоўваецца, зняў сцэну, як яны самі бесперашкодна перасякалі граніцу паміж Беларуссю і Літвою туды і назад. Улады Беларусі прызналі гэта парушэннем расейскімі журналістамі заканадаўства краіны акрэдытацыі. Тэлежурналісты расейскіх тэлекампаній ОРТ і НТВ страцілі ласку прэзідэнцкай адміністрацыі ўжо раней за крытычныя рэпартажы аб Беларусі.

**Губернатар Калінінградскай вобласці Пётр Гурбенка** папрасіў прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнку** адтэрмінаваць планаваны на пачатак жніўня візіт у гэты заходні рэгіён Расеі. Непасрэднай прычынай гэтай неспадзяванай просьбы былі арышт беларускай міліцыяй журналістаў расейскага тэлебачання ОРТ і аштрафаванне 15 іншых журналістаў, якія арганізавалі пратэст супраць зняволення расейскіх калег. Прэс-служба беларускага прэзідэнта паведаміла, што Аляксандр Лукашэнка адтэрмінаваў свой візіт у Калінінград.

**Польскае Міністэрства замежных спраў** сцвердзіла, што „з непакоем назіраде за ходам падзей у Беларусі". У заяве, якую падпісаў прэс-сакратар МЗС **Багуслаў М. Маеўскі** падкрэслена, што „факты арыштаў і рэпрэсій журналістаў, якія выконваюць сваю прафесію, стаяць у супярэчнасці з прынцыпамі дэмакратычнай дзяржавы. Выказваем надзею, што сітуацыя будзе (...) высветлена, а затрыманыя журналісты — вызвалены", — сцвярджае МЗС.

Арганізацыя Transparency International з Берліна апублікавала **рапарт аб карупцыі ў свеце**. У рэйтынгу, у якім разглядалася сітуацыя ў 52 краінах, Польшча апынулася на 29 месцы, за Чэхіяй (27) і Венгрыяй (28). Найменш карумпаванымі дзяржавамі былі прызнаны скандынаўскія краіны (Данія, Фінляндыя і Швецыя), Новая Зеландыя і Канада. Найбольшая карупцыя квітнее ў Расеі, Нігерыі, Балівіі і Калумбіі. Рапарт не ўлічвае аднак тых краін, з якіх няма верагодных даных, напрыклад Беларусі, Украіны, прыбалтыйскіх дзяржаў, Балгарыі ці Албаніі.

**Беластоцкая Кураторыя асветы** памалу выходзіць з мінулагодняй фінансавай запазычанасці. Але, — як сказала віцэкуратар **Зофія Трацыгер**, — новы навучальны год напэўна не пачнецца з чыстым банкаўскім рахункам. Дзяржаўнай датацыі далей не хапае на пакрыццё бягучых выдаткаў у школьніцтве. Ад пачатку гэтага года задоўжанасць Кураторыі дасягнула 1 млн. 544 зл. і датычыць яна галоўным чынам не аплачаных некаторымі школамі рахункаў за электраэнергію і вугаль. Кураторыя паведаміла, што яна сама будзе сплачваць задоўжанасць, а не паасобныя школы.

**У Ломжы** адбылася выбарчая канвенцыя Руху адбудовы Польшчы з удзелам **Зыгмунта Вжодака** і **Рышарда Бэндэра**, вядомых сваімі ультракаталіцкімі поглядамі лідэраў. Гэты апошні падчас прэзентацыі кандыдатаў у парламент выкрыкваў патрыятычныя на яго думку воклічы, а сярод іх такі: „Давайце высылаць унукаў ломжынскіх камуністаў у Беларусь!". Падкрэсліў ён таксама, што ў РОП павінны быць толькі сапраўдныя палякі, значыць, католікі.

# Весткі з Беларусі

**Упэўненасць у праваце**

Аляксандр Лукашэнка даў інтэрв'ю журналістам Пскоўскай вобласці, якія спрабавалі высветліць эвалюцыю думак і меркаванняў кіраўніка беларускай дзяржавы ад яго дэпутацкага мінулага да сёняшняй пасады. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што безумоўна яго пазіцыя крыху змянілася, але ў бок упэўненасці ў праваце сваіх поглядаў. Галоўным сваім саюзнікам у Расейскай Федэрацыі прэзідэнт Беларусі назваў не канкрэтную асобу, а ўвогуле расейскае грамадства, адзначыўшы пры гэтым, што ніколі не марыў пра пост прэзідэнта аб'яднанай дзяржавы. „Тут галоўные разабрацца ў тэрмінах, што мець на ўвазе пад аб'яднанай дзяржавай, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — бо як толькі мы падпісалі саюзныя дакументы, пачалася барацьба за рэалізацыю пагадненняў". Галоўнымі праціўнікамі Саюза прэзідэнт назваў расейскіх палітыкаў — Гайдара з яго камандай і Чубайса. Падчас інтэрв'ю была закранута і тэма арышту супрацоўнікаў Беларускага бюро ОРТ і заява прэзідэнта РФ Барыса Ельцына аб магчымым пераглядзе некаторых пунктаў саюзнага дагавора. Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены, што яго расейскага калегу ўвялі ў зман. „Я на яго зусім не крыўджуся і ўпэўнены, што пры першай сустрэчы ўсё высветліцца", — сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

**Безвыніковае пасяджэнне**

У Менску адбылося чарговае пасяджэнне пагаджальнай камісіі з удзелам прадстаўнікоў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ранейшага складу Вярхоўнага Савета пры пасрэдніцтве Еўрасавета. У ходзе гэтай сустрэчы планавалася абмеркаваць канстытуцыйныя пытанні, аднак ні адзін з бакоў не меў намеру ісці на кампраміс. У выніку другі раунд перамоў паміж уладай і апазіцыяй пры пасрэдніцтве Еўрасаюза быў спынены. Далейшы лёс перамоў будзе вырашацца на больш высокім узроўні — на сустрэчы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі Еўрасаюза.

**Скарынінскія мерапрыемствы**

Дзеля развіцця двухбаковых узаемаадносін паміж Чэхіяй і Беларуссю ў галіне культуры, увекавечання памяці Францыска Скарыны ў сувязі з 480-годдзем выдання ім Бібліі пасольства РБ у Чэхіі падрыхтавала шэраг мерапрыемстваў: тэатралізаваны паказ ля помніка і мемарыяльнай дошкі Францыску Скарыну, выступленні скарыназнаўцаў у студэнцкіх аўдыторыях і бібліятэках, кніжныя выставы, служба ў кафедральным саборы святых Кірыла і Мяфодзія. Папярэднюю згоду на ўдзел у гэтай акцыі выказалі пасольствы Расеі, Украіны, Літвы, Польшчы, Італіі, Балгарыі і Югаславіі.

**Сталічная гульня**

Унікальнае выданне рыхтуецца да выпуску — гульня для дзяцей і дарослых „Карпарацыя Мінск". Яна падобная на папулярную ва ўсім свеце „Манаполію" — ластаўку капіталізму, якая заляцела ў Беларусь з-за мяжы ў пачатку 1980-х. Гульня вучыць умела распараджацца капіталам, зарабляць грошы. На маляўнічым полі размешчаны каля 50 сталічных прадпрыемстваў. У кожнай фірмы сваё месца — з таварным знакам, дэвізам і іншымі данымі. Гульню суправаджае маляўнічы буклет з поўнай інфармацыяй аб фірме.

**Гродзенскія навінкі**

„Верас" — так называецца навінка Гродзенскага аб'яднання „Радыёхваля". Гэта магутны, з двума дыяпазонамі ультракароткіх хваляў радыёпрыёмнік, з уманціраваным кварцавым гадзіннікам, выкананы ў стылі рэтра. Яго серыйная вытворчасць пачалася ў жніўні. Аб'яднанне таксама рыхтуецца да выпуску новай аўтамагнітолы „Гродна-13", якая будзе адпавядаць сусветным стандартам. У жніўні сышоў з канвеера і першы гродзенскі каляровы тэлевізар.

**Цягнік з іконамі**

Супрацоўнікі Брэсцкай мытні разам з пагранічнікамі прадухілілі спробу вывезці вялікую партыю ікон XVIII-XIX ст.ст. Пры аглядзе цягніка Масква—Варшава ў трох вагонах былі знойдзены 57 ікон. Згодна з папярэднімі ацэнкамі экспертаў каштуюць яны 116 млн. рублёў. Спачатку года затрымана мытнікамі ўжо больш чым на 400 млн. рублёў гістарычных і культурна-мастацкіх каштоўнасцей.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Спасаўскія запусты** — фэст у Бельску-Падляшскім.
- **Занатоўкі Юстына Пракаповіча з II З'езда беларусаў свету.**
- **Адкуль такая паводка ў сярэдзіне лета** — разважаюць Грыша Мароз з суседам.

# Фэст у Чаромсе

Чаромхаўскі фэст, які арганізаваўся Беларускім грамадска-культурным таварыствам у нядзелю 3 жніўня 1997 года, быў вельмі ўдачлівым і цікавым мерапрыемствам. Сведчыць аб гэтым хаця б факт прысутнасці шматлікай публікі. У параўнанні да мінулага года аўдыторыя ўвялічылася намнога больш. Можна сказаць напалову.

Не ведаю якія фактары на гэта так паўплывалі. Ці гэта заслуга арганізатараў і працаўнікоў Чаромхаўскага асяродка культуры і іхняй рэкламы, ці сустрэча з кандыдатамі ў паслы і іхнія выбарчыя праграмы ў набліжаючайся кампаніі так прыманілі грамадства Чаромхаўскай гміны, ці проста, звычайны выпадак? Адно пэўнае — фэст удаўся. Людзі адыходзілі з плошчы задаволенымі. А вось мае рэфлексіі.

Мерапрыемства было назначана на трэцюю пасля абеду. Пачалося яно на 15 мінут пазней. Калі я падыходзіў да дома культуры, здалёк пачуў смех дзецюкоў і гукі музыкі. Пры ўваходзе на плошчу прывітаў мяне малады хлапец з выбарчай лістоўкай Беларускага саюза ў руцэ.

— Пачытайце, калі ласка. Вас пэўна гэта зацікавіць...

Я адказаўся ад лістоўкі, бо некалькі такіх штучак прыхапіў у рэдакцыі і сам раздаваў знаёмым. На сцэне, перад вясёлай дзіцячай публікай я ўгледзеў нейкае цуда, быццам бы з казачнага каралеўства. Раз яно шчабятала птушыным голасам, іншым разам (пры акампанеменце гітары і ўсялякіх свісцёлак) давала сапраўдны канцэрт.

— Гэта пан Ярэк, акцёр Беластоцкага лялечнага тэатра, — паясняе Тамара Кердалевіч, кіраўнік чарамхоўскага ГОКу. — Запрасілі мы яго спецыяльна для маленькіх, няхай і яны крыху забавяцца.

Непадалёк за глядзельнай аўдыторыяй валейбойныя каманды разыгрывалі свой матч.

Пасля заканчэння дзіцячых гульняў на сцэне пачалі выступаць мастацкія калектывы з Волькі-Тэрахоўскай і Чаромхі-вёскі. Завяршыў выступленне духавы аркестр мясцовых чыгуначнікаў у аднаўленым складзе.

У 17.00 заехаў з Кляшчэляў аўтобус, на якім прыехалі старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі, вядомыя ўсім ужо паслы ў Сейм Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, віцэконсул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Павел Латушка, мастацкія калектывы; „Сябры" з Беларусі і „Каласкі" з Беластока.

Пачынаецца афіцыяльная частка. Прывітальное слова і названне высокіх гасцей належыць гаспадару мясцовага самаўрада, войту Чаромхаўскай гміны спадару Міхалу Врублеўскаму. Пасля кароткага выступлення старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Янкі Сычэўскага, палачку вядучага пераймае сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, якая прапагандуе асобу Янкі Сычэўскага як самага годнага кандыдата ў паслы Сейма. Затым пачынаецца канцэрт. Выступаюць „Каласкі" пад кіраўніцтвам Алі Дубец. Звонкія галасы маладых дзяўчат, іх прывабныя, смуклыя фігуры і мілагучныя песні спадабаліся прысутным, аб чым сведчылі бурныя апладысменты. Пасля калектывы і паасобныя выканаўцы змяняліся быццам бы ў калейдаскопе.

Зноў выходзяць на сцэну жанчыны з Волькі-Тэрахоўскай і вёскі Чаромхі. Выступае мясцовая „Чарамшына". Хачу прытым адзначыць, што гэты малады калектыў заваёўвае штораз большую папулярнасць. Нядаўна пабывалі яны з канцэртамі ў Францыі, запісалі сваю касету, якая прадавалася на фэсце. Многія яе куплялі. Аднак найбольшым атракцыёнам аказаўся вядомы на Беларусі (таксама і на Беласточчыне) калектыў „Сябры" пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі. Гэта сапраўдныя артысты, якіх патрабуе якраз чаромхаўская публіка. Пасля кожнага нумара воплескі не сціхалі.

Публіцы асабліва спадабалася Алеся — адзіная жанчына ў групе „Сяброў", якую складаюць пяць мужчын. Яна так спадабалася ўсім, што публіка не хацела адпускаць яе са сцэны.

Надоўга застанецца ў нашай памяці калектыў „Сябры" і ягоныя песні „Піце піва мужыкі", „Полька беларуская", „Ой, шуміце бярозы" ці „Беластоцкі край".

Амаль двухгадзінная мастацкая частка фэсту наблізілася да канца. Калі выконваючы песню Анатоль Ярмоленка заахвочваў прысутных „Гуляй публіка", Аля Дубец закружылася ў танцы з войтам гміны спадаром Врублеўскім. За імі пайшла іншая пара...

Вядучая канцэрт аб'яўляе заканчэнне мастацкай часткі. Аднак публіка не адпускае „Сяброў". Патрабуе сваёй Алесі! Яшчэ прагучалі дзве песні ў яе выкананні. І, доўгія-доўгія воплескі, кветкі ад аўдыторыі, пажаданні...

— Да новай сустрэчы! — кідае развітальнае слова кіраўнік калектыву Анатоль Ярмоленка ў публіку, — Запрашайце нас, прыедзем! Абавязкова прыедзем!

Што ж можна яшчэ дабавіць да таго, што я вышэй напісаў? Пэўна толькі тое, што ў час фэсту спадарожнічалі мне неразлучна мае даўнейшыя калегі па пяру Міхась Хмялеўскі і Янка Целушэцкі, якія апошнім часам прадстаўляе сабой галоўнага рэдактара „Gazety Hajnowskiej".

**Уладзімір Сідарук**

# Купі свой дом

Яшчэ да вайны мой бацька разам з дзедам пабудавалі новы дом і амаль усе гаспадарчыя будынкі. Праз вёску тройчы праходзіў фронт (у 1939, 1941 і 1944 гадах), але нашы будынкі шчасліва ацалелі. Толькі ў 1959 годзе сусед, тады пяцігадовы хлапчук, распаліў у сваёй пуні вогнішча і пры нагодзе ад нашых будынкаў асталося толькі папялішча. Ад выкліканага гэтай трагедыяй стрэсу памёр мой дзед, а сем гектараў зямлі асталіся ў спадчыну майму бацьку. Хаця пасля пажару не асталося ў нас нічога і жылі мы ў суседавай хаце, народная ўлада прыйшла да вываду, што бацка мой, пераймаючы ў спадчыну дзедаву зямлю, надта разбагацеў. З гэтай прычыны трэба было заплаціць сацыялістычнай тады дзяржаве суму вартасці каля чатырох кароў. „Улада рабочых і сялян", як вядома, была бескампрамісная і хаця бацькам прыйшлося будаваць усё ад нуля — дом, пуню, хлявы — фінансавыя ўраднікі разам з міліцыянерамі забіралі любую жывёлу, калі толькі бацька не заплаціў у назначаны тэрмін адпаведную суму.

Дзякуючы звышчалавечым намаганням маім бацькам удалося аднак вылезці з бяды і стаць нават паважанымі ў сваёй вёсцы гаспадарамі. На панадворку стаялі новыя будынкі, якія былі супольнай уласнасцю абодвух бацькоў.

Пасля смерці маці бацьку здавалася, што дом, які ён сам будаваў і жыў у ім сорак гадоў, з'яўляецца ягонай уласнасцю. Аказваецца, не зусім. Суд прысудзіў яму права толькі на палову вартасці ўсіх будынкаў, якія бацькі супольна будавалі, а пасля імі карысталіся. Аднак III Рэч Паспалітая (Urząd Skarbowy), так як раней Народная Польшча, хоча, каб бацька падзяліўся з ёю матчынай спадчынай. Разлезлая лэдзі разлезлым голасам заявіла, што згодна з законам бацьку, каб атрымаць права на ўласнасць свайго дома, трэба заплаціць дзяржаве амаль дваццаць працэнтаў яго вартасці. Некаторыя скажуць, што гэта дзяржаўны рэкет. Так, але ўсё гэтае робіцца згодна з законам. Аднак, карыстаючыся традыцыйнымі спосабамі, можна панізіць суму абслугоўвання рэкецёраў нават напалову. Замест у дзяржаўную касу трэба толькі нейкую суму ўручыць карумпаванаму ўрадніку, а ён ужо будзе ведаць як найтанней прадаць нам наш дом.

**Васіль Кургановіч**

# З камбайнам не ўвойдзеш

**У Міклашах, што ў Арлянскай гміне, у 1960—70-х гадах гаспадарыла 60 землябробаў. Сёння ў вёсцы можна налічыць усяго каля 20 сапраўдных гаспадароў, хаця малако прадаюць яшчэ 33 сялян. Адным з малодшых гаспадароў лічыцца тут 40-гадовы Дзмітрый ОРДА, які разам з жонкай (абое на здымку) і дваімі дзяцьмі займаецца на 20-гектарнай гаспадарцы. Сёлета прыйдзецца яму ўбраць збожжа з 10 гектараў.**

— Плён у гэтым годзе, відаць, можа быць лепшы за мінулагодні, але сабраць ураджай сёлета будзе намнога цяжэй, — кажа Дзмітрый Орда. — Дзеля гэтага патрэба прынамсі тры тыдні добрага надвор'я, бо калі пойдзе дождж, то збожжа на корані прарасце. Яно ўжо на дадатак палягло. Звычайна жніва пачынаецца пасля Пятра і Паўла, але сёлета спозніцца яно на два тыдні. На маім полі жыта вельмі сырое, а вільготнасць зерня дасягае нават 40 працэнтаў, калі нормамі дапускаецца 16-працэнтнае насычэнне вільгаццю. Сырога зерня нельга трымаць у складах, бо загарыцца, а сушыць сяляне не маюць чым. У мінулым годзе ў сушарні за апрацоўку адной тоны зерня бралі 60 зл., але калі прадаваць вільготнае, то на пункце скупкі яшчэ больш вылічаць.

Сёлета высеяў я па 240 кг мінеральных угнаенняў на гектар і жыта вырасла густое ды... палегла. Цяпер сюды з камбайнам не ўвойдзеш. Трэба будзе браць снопавязалку або касу ў рукі, потым два тыдні трымаць снапы на полі ў ляшках, а затым паўтара тыдня на старане ў клуні. А як жыта высахне, трэба будзе яго змалаціць. У Міклашах маем адну грамадскую малатарню. Салома пойдзе на сечку і на подсціл. На выплятанне каробак яна ўжо не надаецца, бо ад празмернай вільгаці страціла колер.

Машыны дорага каштуюць. Напрыклад, за гадзіну працы СКРаўскага камбайна прыходзіцца плаціць 150 зл. Нібы танней каштуе снопавязалка, бо толькі 75 зл. у гадзіну, але, далічыўшы шнурок, атрымоўваецца даражэй чым камбайн.



Невядома яшчэ што далей рабіць са збожжам, ці будуць яго купляць у сялян. Урад ужо назапасіў 4,5 млн. тон імпартнай пшаніцы. За тону пшаніцу плаціць 460 зл., а за жыта — 320 зл. Наяўныя грошы селяніну неабходны хаця б для аплаты падаткаў. За пераразліковы гектар прыходзіцца плаціць у казну 80 зл. падатку, значыць, вартасць 2,5 цэнтнера жыта. Я сам плачу 400 зл. падатку ў год, а ўгнаенняў на адзін гектар трэба высеяць на 200 зл. Калі б нам фінансава не дапамагалі бацькі-пенсіянеры, было б тугавата.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Białorusini to rozśpiewany i roztańczony naród

## *Вобраз беларуса ў дакументах МУС*

Плён навуковых канферэнцый паказвае, што некаторым даследчыкам ужо адкрыліся архівы Міністэрства ўнутраных спраў (МУС). У друку паказаліся першыя апрацоўкі гэтых дакументаў у выглядзе артыкулаў, падрыхтаваных супрацоўнікамі ўсялякіх навуковых установаў. У 1996 годзе Інстытут Сярэдняй і Усходняй Еўропы выдаў зборнік матэрыялаў, прысвечаных сітуацыі нацыянальных меншасцей у Беларусі, Польшчы, Літве, Чэхаславакіі і Украіне*. Змяшчае ён між іншым артыкул Зофіі Крупскай *Mniejszość białoruska w latach 1944-1988 w świetle materiałów przechowywanych w Centralnym Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych*. Характар апрацоўкі паказвае, што аўтарка раней нічога не чытала пра беларусаў Беласточчыны, а дакументы МУС былі адзінай крыніцай яе ведаў на гэту тэму. Невядома, аднак, якімі матэрыяламі карысталася аўтарка: ці былі гэта нейкія аналізы, выкананыя ўраднікамі міністэрства і афіцэрамі службы бяспекі, ці рапарты даносчыкаў і правакатараў, ці проста акрэсленыя рэгламентам пастаянныя справаздачы. Аўтарка некрытычна карысталася гэтымі дакументамі, успрымаючы кожную інфармацыю як адлюстраванне тагачаснай рэчаіснасці. Дарэчы, не магла яна зрабіць інакш, не маючы ніякіх ведаў з іншых крыніц. Таму ў працы Крупскай малавата інфармацыі пра самых беларусаў, а больш пра тое, якімі ведамі пра нашу меншасць распараджаліся ўраднікі і афіцэры МУС. Напэўна карысталіся яны літаратурай, створанай журналістамі „Нівы" і пісьменнікамі „Белавежы". Вершы Віктара Шведа разглядаліся як маніфест, як нейкая ідэйная дэкларацыя беларускай нацыі ў Польшчы.

„W latach 1944-1945 Białorusini stali się podstawową grupą mieszkańców Białostocczyzny, z której rekrutowano ludzi do aparatu władzy i administracji państwowej, aparatu partyjnego oraz organów służby bezpieczeństwa i porządku publicznego, — піcала Крупска. — Ludność polska często używała takiego powiedzenia: „Bielsk Podlaski rządzi, Hajnówka sądzi". Białorusini czuli się obywatelami pierwszej kategorii. Jeszcze w 1957 roku w powiecie hajnowskim na 5 członków PPRN (Prezydium Powiatowej Rady Narodowej — Я. М.) 4 było Białorusinami, a na 55 radnych — 30". Невядома адкуль такімі ведамі распараджалася МУС. Афіцыйна нідзе нікога не пыталі пра нацыянальнасць, а беларусы, якія былі пры ўладзе, найчасцей называлі сябе палякамі. Але, як з гэтага відаць, ашукоўвалі яны толькі самых сябе і хаваліся толькі перад сабою. Органы бяспекі аднязначна акрэслівалі іх як беларусаў і толькі ў такіх катэгорыях разглядаліся яны як адзін з элементаў існуючага парадку. „Do 1957 r. ludność polską raziło to uprzywilejowanie, a strachem napawało częste prześladowanie m.in. z powodów politycznych. Po 1957 r. Białorusini są stopniowo wypierani z aparatu państwowego i politycznego. Teraz oni czują się obywatelami drugiej kategorii. Powołują się na zasługi poniesione dla PRL". У семідзесятых гадах, — прадаўжае аўтарка, — „część członków Zarządu Głównego BTSK zaczyna głosić separatystyczne hasła: „Ziemie zamieszkałe przez ludność białoruską powinny być przyłączone do BSRR". Wysyłają oni w teren agitatorów, którzy zbierają podpisy pod petycjami do władz polskich. Znaczna część inteligencji białoruskiej głosi, że stolicą polskich Białorusinów jest Mińsk, a nie Warszawa. W latach następnych postulaty ograniczają się tylko do problemów szkolnictwa, w 1974 roku przywrócenia tradycyjnych nazw miejscowości. W 1982 r. BTSK domaga się wprowadzenia języka białoruskiego do urzędów. W 1980 roku na terenie Białostocczyzny rozpowszechniana była ankieta wśród ludności białoruskiej, złożona z 25 pytań (...). Oto niektóre z nich: 14) Jak wygląda sytuacja Polaków na Białostocczyźnie? 15) Czego oczekują Białorusini od Polaków, a Polacy od Białorusinów, którzy stanowią trzon podpory władz komunistycznych? 16) Czy polscy Białorusini mogą stanowić w przyszłości zaplecze kadrowe dla niepodległego państwa Białoruskiego? 17) Jak powinny wyglądać granice niepodległej Białorusi? 18) Jak Białorusini widzą współpracę polsko-białoruską? 22) Jak Białorusini oceniają politykę Kościoła katolickiego w stosunku do Białorusinów (otwarcie i szczerze)? 24) Jaki jest stosunek Białorusinów do propozycji stworzenia w przyszłości Konfederacji Wschodnioeuropejskiej?" Так выглядае гісторыя беларусаў, пісаная на падставе матэрыялаў, якіх аўтарамі былі правакатары, даносчыкі, афіцэры органаў дзяржбяспекі.

У 1971 г., калі начальнікі БГКТ запатрабавалі ад Міністэрства адукацыі ліквідацыі школ з беларускай мовай навучання, у дакументах МУС запісалі: „Tylko BTSK dba o właściwy kształt szkolnictwa białoruskiego w Polsce".

Артыкул Зофіі Крупскай, напісаны выключна на падставе матэрыялаў МУС, ствараe асабліва зафальшаваны вобраз беларусаў у Польшчы. Аўтарка піша, напрыклад, пра „Sekcję Literacką „Białoruś" działającą przy BTSK", вядомых літаратараў, такіх як „Barszuwski" „Czykwik", якія займаюцца „szkolarsko-wiejską twórczością literacką". Паводле матэрыялаў, якімі распараджалася Крупска, у сямідзесятых гадах „Ніва" друкавалася васьмітысячным тыражом, а звароты перавышалі продаж. Яшчэ горшыя паказчыкі былі для „Беларускага календара". „Białorusini chętniej czytali polską prasę i literaturę", — канстатуе Крупска і паўтарае за інспектарам МУС: „Białorusini to rozśpiewany i roztańczony naród". Такімі нас хочуць бачыць.

**Яўген Міраковіч**

*Zofia Krupska, *Mniejszość białoruska w latach 1944-1988 w świetle materiałów przechowywanych w Centralnym Archiwum Ministerstwa Spraw Wewnętrznych*, [w:] *Białoruś, Czechosłowacja, Litwa, Polska, Ukraina. Mniejszości w świetle spisów statystycznych XIX — XX w.*, Lublin 1996.

# Варта падумаць

У краіне пачалася перадвыбарчая кампанія і зноў на некалькі месяцаў палепшыцца наша жыццё. Паляпшаць яго нам будуць тыя, што хочуць пасламі астацца. Пачнуць яны важ па гарадах ды вёсках, і спаць не будуць, а толькі стануць абяцаць нам залатыя горы, шкадаваць нас, каб мы ім толькі памаглі. Старая гэта песенька, толькі новыя словы ў ёй прагучаць. Чулі мы яе неаднойчы і гучэць яна будзе да дня выбараў. А калі новы парламент усталюецца, тады аб нас забудуць. І нічога дзіўнага, у іх жа і сваіх спраў па вушы... Ну і памяць кароткая, бо чалавек жа не камп'ютэр. Аднак мне іх шкада. Не так кандыдатаў, як усёй перадвыбарчай кампаніі — закароткая яна. Вось каб даўжэйшая, думаю, тады даўжэй абяцанкамі кармілі б нас. А так што? Наслухаемся, размарымся, а тут і галасаваць трэба. А на каго? І сам толкам не ведаеш, колькі не выбіралі, ніколі дабра не мелі. Выбіралі левых, выбіралі правых, а яны ўсе аднолькавыя. Калі „Салідарнасць" дайшла, дык казалі, што ўсё пераменіцца. І што? А нічога. Як было, так і асталося, не гаворачы аб лічаных адзінках. Выбралі левых, цяперашні ўрад значыць, і што яны направілі нам, праваслаўным? Нічога. А яшчэ калі ў Сейме нашы спраы рашаюць, галасуюць супраць. Вось прыяцелі. Аднак да нас прыпруцца перад выбарамі і будуць прасіць падтрымкі. Як бы сумлення не мелі. Толькі ім усё роўна, каб толькі ад карыта іх не прагналі. Усё мы гэта перажылі, і, думаю, у канцы розуму набраліся. Будзем ведаць, на каго свой голас аддаць.

А не адзін не пойдзе галасаваць, загне мата і скажа: „Не пайду! Даволі ашуканства. Гэта ўжо не першы раз". Яго права — дэмакратыя, вольнага воля. Прайшлі тыя часы, калі „добраахвотна" сілаю завозілі голас аддаць. А ці гэта добра не ісці галасаваць? Не ведаю.

— І ты не ведаеш? — запытаў я суседа, які нічога не гаварыў, а толькі слухаў мой маналог і штосьці палкай крэмзаў на зямлі.

— Хочаце ведаць, што я думаю? Паслухайце. Калі б у нас, беларусаў, была еднасць, трэба ўсім ісці на выбары і выбраць сваіх прадстаўнікоў. І рабіць, і жыць як усе людзі. А ў нас як у казцы Крылова: невядома, хто куды, хто за кім і каму свой голас аддаць?

Вось так мы разважалі седзячы на лаўчацы, бо гэта цяпер найважнейшая тэма. Толькі сярод нас, беларусаў, няма каму канкрэтна заняцца выбарамі. Мы прымаем усё, што нам падсунуць.

— Існуе надалей абычай: ты нас не чапай і мы табе нічога дрэннага не зробім. Вось аб гэтым неаднойчы думаю, — сказаў яшчэ сусед. — І лепш прамаўчаць, чым многа гаварыць.

— А я думаў, што табе дар мовы адняло, — сказаў я жартам суседу. — Збіраўся дзесьці падкінуць цябе да шаптухі.

— Ат, можа і не пашкодзіла б, — адказаў ён жартам. — Толькі каб не да старой.

І мы абодва разрагаталіся ўголас, аж куры, якія пухціліся ў пяску, дзюбы пападумалі. Цікава, што яны аб нас падумалі? Хаця і птушкі, аднак свой розум маюць. А калі мы высмяяліся, абцерлі слёзы, сусед зноў загаварыў:

— Ведаеце, думаў я інакш, а тут выходзіць як у індыка, які нядзельку чакаў. Так і ў нас, беларусаў. Калі мы апамятаемся, да сябе дойдзем, перастанем жыць чужым розумам? Не ведаю! І ніхто з нас не ведае.

— А можа не так гэта трагічна?

— Што не кепска? Гэта не кепска! Горш быць не магло, — разгарачыўся сусед. — Падумайце самі і запытайце самі сябе: Чаму ў нас такія нелады і беспарадак? Чаму беларусы да толку не дойдуць? А вы гаворыце: не вельмі кепска. Хочуць за чужой спіной у паслы праслізнуцца, думаючы, што самі нічога не патрапім зрабіць. Дакуль хтосьці нам будзе дапамагаць і за якую цану? А чаму ж да гэтай пары нам ніхто не дапамагаў? А тут раптам абаронцы знайшліся. Пашкадавалі нас усе адзі і будуць нам дапамагаць, нашы справы рашаць, толькі не шкадуйма сваіх галасоў. Да гэтай пары, пэўна, не прызнаваліся, што мы па-суседску жывем і, думаю, забудуць пра нас. А каму патрэбны хістаючыся кацап? Нікому. І ведайце, мяне ад злосці аж разрывае, месца сабе не знайду. Усё перадумаў і ўсяляк меркаваў. Падобнае і ў галаву не прыходзіла. А нас жа не так і мала. Паглядзіце на нямецкую меншасць. Зусім іншы народ, сваёй справе аддадзены, які ведае чаго хоча і ведае, што яму ад жыцця належыцца. Маюць яны сваіх паслоў, а нават сенатара. А мы што? Аж сорамна! Так думаюць мужыкі. А дзе ж наша інтэлігенцыя, нашы вучоныя, разумныя людзі, якія многа могуць зрабіць і патрапяць карысную справу правесці. Дакуль яны будуць маўчаць? Можа на ўсё гэта Гасподняя воля такая. Як у старыну пад Барадзіно! Хто гэта ведае, хто знае?

— Пачакай, пачакай, сусед, паслухай, што я вычытаў у штомесячніку „Przegląd Prawosławny". Паўстае выбарчы камітэт праваслаўных славян, значыць усіх праваслаўных меншасцей у Польшчы.

— Ух ты! Гэта штосьці новае! Калі б іх выбраць, можа яны нам штосьці памогуць?

— Толькі як выйграць, калі мы разбіты на невялікія групкі. Зноў хана, нічога не выйдзе і чатыры гады ў барадў пляваць будзем. Усім вядома, што заўсёды перамагае мацнейшы, а слабейшаму дастаецца тое, што з носа ўпадзе. Варта падумаць аб гэтым і адпаведны выбар зрабіць. А гэта ад нас залежыць, як далей захочам жыць.

— А хто не хацеў бы жыць прыгажэй? — запытаў мяне сусед і з гэтымі словамі мы разышліся.

Аднак у галаве мітусіліся думкі і ўваходзячы ў хату я разважаў уголас. Пачула гэта жонка і сказала:

— Камітэты і ўсё другое я табе выб'ю з галавы. Даволі мне колішніх камітэтаў, у якія з найменшай справай бегаць трэба было. Толькі ў камітэтах можна было нешта аформіць, у важнага сакратара. Цьфу, кашмар.

— Ах ты, дурненькая. Не аб гэтых камітэтах гавару. Аб выбарчых, любачка, аб выбарчых. Каб так адзін камітэт, усе супольна, усёй грамадой. Тады і мы паказалі б, што можам штосьці зрабіць. І лічыліся б з намі.

— Гавары, гавары, то можа і вячэраць адхочацца. А бульба і так ужо астыла.

— Бульба — гэта бульба і заўтра яна будзе, а выбары раз на чатыры гады. І заўсёды яны нас сустракаюць непадрыхтаванасцю. Ах, Божа мой, Божа, дакуль гэта будзе?

З разбітымі думкамі палез я аднак за стол.

**Грыша Мароз**

# Гісторыя патрэбная для душы

[1 ☞ *працяг*]

— Яна нават праз сон смяецца, — дадаюць сябры. — І спявае як птушка, увесь дзень.

— Я цешуся, што тут апынулася, — кажа Ася. — Шкада, што трэба будзе зноў гаварыць па-польску. Чалавек вернецца ў Гайнаўку, скажа было *файна* і зноў будзе як раней.

Ася ведае не толькі літаратурную мову, але і дыялект. На рэйдзе адчула, што старэчы расказваюць пра лёс яе продкаў. І падумала: як нам цяпер добра!

Кася Ігнацьева — расіянка — родам з Яраслаўля, на рэйдзе пачала гаварыць па-беларуску.

— Я заўсёды хацела ведаць гэтую мову. Упершыню сустрэлася з падляшскім фальклорам.

Кася спявае ў „Чарамшыне”, а там апрацаваны або стылізаваны рэпертуар. У людзей найбольш спадабалася адкрытасць і гасціннасць. У ліцэі цяжка сказаць, што гэта беларусы. Ёсць у школе такі прадмет, але нацыянальнай свядомасці не надта. Неўзабаве Кася вяртаецца ў Яраслаўль.

— І сэрца будзе балець, — уздыхае дзеўка.

— Ой так, так, — уздыхае „Заяц”, сябра паненкі. — Трэба будзе ў Яраслаўль ехаць!

Іншая сімпатычная пара — гэта Агнешка і Мар’юш.

— Мы пазнаёміліся на Грабарцы, — кажа Агнешка. — Сёння два месяцы як *з сабой ходзім*. І ведаеце, на рэйдзе пачалі мы гаварыць між сабой па-беларуску. Бо раней я думала, што наша мова не адпавядае для закаханых, — кажа дзяўчына. — Цяпер усё змянілася.

Агнешка ведае, што і па-свойму можна ўсё сказаць хлопцу. Агнешка і Мар’юш сімпатычныя, як голуб і галубка з народнай песні.

* * *

— Мы думалі, што гэта *баптысты* ровэрамі наехалі. Нядаўна атака на вёску была, — прывіталі нас старажылкі з Плютыч. Тут як нідзе многа старых бабуль.

— А чаму ты з такім тлумаком ходзіш, — пацікавіліся старэчы маім рукзаком. — Цяпер маладыя *брыдка* апранаюцца. У майтках кароткіх ходзяць, усё цела паказваюць. Не так як даўней, дзяўчына ў сукенцы хадзіла, на галаве хустачка завязана, каса заплецена.

У Плютычах зараз многа дзяцей. Амаль усе прыехалі сюды на канікулы да бабуль. Пасля летняга сезона зрэдку пачуеце тут гоман малечаў. Толькі чатыры школьнікі на ўсю вёску. А пасля вайны вёска была такая моцная, што нават банды сюды не пасмелі заходзіць. Не так як у Гусаках, дзе у 1946-м годзе ўся вёска начавала ў жыце або лесе.

— Дзень у дзень рабавалі прыходзілі. Нас, *кацапаў*, за людзей не лічылі, — успамінаюць вяскоўцы.

Зараз і гэтая вёска пусцее.

— Цяпер старым добра жывецца, — кажуць бабулі. — Чалавек з рэнтай як паніска жыве. А калісь такіх як мы на жэбры выганялі.

У Стацэвічах, праваслаўна-каталіцкай вёсцы, пра бежанства не чулі. Людзі затое ўспамінаюць жудасныя пасляваенныя гады. З гэтай вёскі загінула трох вазакоў, расстралялі іх банды з навакольных вёсак.

— Я аж расплакалася, як слухала радыёперадачу з Беластока пра забітых вазакоў у Пухалах-Старых, — кажа жанчына. — Не дай Бог вам такіх часоў дажыць, дзеткі. Вайна людзей у звяроў мяняе.

Стацэвічы адміраюць. Зрэдку можна сустрэць тут гаспадара, новыя сядзібы. Наведвальнікі выклікаюць і зараз пачуццё страху.

— Як добра, што вы да нас прыехалі, — развіталіся субяседнікі са Стацэвіч. — Хаця са сваімі мы як людзі пагаварылі!

* * *

Дарафей Фіёнік пад уражаннем працы з моладдзю.

— Ёсць энтузіязм у падыходзе да тэмы. Яны вельмі лёгка завязваюць кантакт са старымі людзьмі, умеюць іх выслухаць, ведаюць, што не выпадае гаварыць па-польску. Я задаволены, калі бачу іх сапраўднае зацікаўленне. Як Мар’юш Такаюк фатаграфуе кожны каменны крыж. Як Ірэна Кулік, Ася Масайла, Міхал Сцепанюк дапытваюцца пра дэталі. Як Агнешка Ярашук кажа, што такой прыгожай песні яшчэ не чула. У такой групе я магу сесці і драмаць. А сур’ёзна — з моладдзю трэба абыходзіцца нармальна і прыстойна.

Падобнай думкі і доктар Алег Латышонак, навуковы наглядальнік рэйду.

— Шкада, што так позна мы ўзяліся збіраць матэрыял пра бежанства. Але і зараз, калі салідна папрацуем, ёсць шанс дэталёва распрацаваць гэтую тэму.

Доктар Латышонак таксама гаворыць пра сатысфакцыю ад заняткаў з маладымі, інтэлігентнымі і добра выхаванымі людзьмі.

— Рэйд здзейсніўся, бо ёсць у ліцэі Тамаш Саевіч і настаўнік гісторыі Яўген Вапа. Але на такую справу трэба было доўга працаваць.

Мой субяседнік мае надзею, што і далей будзе выходзіць старонка ліцэіста.

— Хаця мяркую, што лепш, калі маладыя людзі самі думаюць пра сваю газетку. У ліцэйскія гады я быў рэдактарам школьнай газеты. Нам, маладым, вельмі залежала, каб у нашы справы не ўмешваліся настаўнікі ці апекуны. Інакш цяжка выявіць сапраўдныя думкі.

— Цяжка будзе, калі школу пакіне Тамаш Саевіч, — кажа Ася Масайла. — Цяпер ведаю, што яго праца для нас вельмі патрэбная. Мы таксама будзем разбуджаць нацыянальную думку.

Другакласнікі Ігар і Павел, як адзіныя ў класе, заявілі пра беларускую нацыянальнасць. У прысутнасці Тамаша гавораць на роднай мове.

— Я „Ніву” чытаю дзеля прыемнасці, — кажа Ігар. — Мой бацька заўсёды яе купляе.

Пра Томка сябры гавораць наступнае:

— Усе ў нас у школе ведаюць, што ён беларус. Нават як дырэктар узнагароду ўручаў, то яму адзінаму гаварыў на беларускай мове.

А Тамаш — мянушка „Спая” — дадае:

— У першым класе я быў *закалёным* палякам. Зараз сваіх аднакласнікаў, якіх хвалюе беларускасць, давёў я да комплексаў і яны ў меншасці.

Юстына паехала на арганізаваны Томкам рэйд, бо ведала, што будзе *супер*. Разам з сябрамі прывітала яна свае 18 гадоў. Для яе задушэўна ўсе спявалі „Многія леты” і шэдэўр рэйду (запісаны ад Вольгі Гуралеўскай з Дэнісак) „Ой, у полі вінко”. Гэтая бойкая песня расказвае пра зайздроснае каханне.



*Рэйдавая парачка.*

Яна (хвалюючыся):
*Ніхто мэнэ так нэ любіт,*
*Як той Ясюленько.*
Ён (бойка і варожа):
*А хто ейі займэ,*
*До хаты нэ зайдэ.*
*Ручкі, нужкі пэрэб’ю,*
*До хаты нэ зайдэ.*

Цікава, што якраз такі сюжэт найбольш спадабаўся ліцэістам. Здаецца, ідзе мода на эгаістычнае каханне. Дарэчы, іх гады былі б нецікавымі без такіх матываў.

* * *

Рэйд „Шляхам бежанства” завітаў у Рыбалы, Паўлы, Канюкі, Войшкі, Заячкі, Кажаны, Чараўкі, Плёскі, Кнаразы, Дэнісікі, Плютычы, Кожына, Ступнікі, Козлікі, Храбалы, Гусакі, Стацэвічы, Сураж. На працягу пяці дзён (28.07— 2.08.1997 г.) ліцэісты разам з доктарам Алегам Латышонкам, Дарафеем Фіёнікам і ніжэйпадпісанай запісвалі ўспаміны пра бежанства і старыя песні. Былі таксама даклады Дарафея Фіёніка пра бежанства, Ірэны Матус пра прынарвянскіх людзей, Славаміра Іванюка пра прафесію архівіста, Дар’юша Краснадэмбскага аб археалагічных знаходках Падляшша. Удзельнікі сустрэліся з настаяцелем царквы ў Рыбалах а. Рыгорам Сасной.

Арганізатарам мерапрыемства быў Тамаш Саевіч (IV кл. ліцэя), які ў рамках конкурсу „Młodzi Partnerzy” атрымаў вылучэнне і датацыю ад Польскага фонду дзяцей і моладзі.

— Я не пераношу слова „беларускі дзеяч”, — кажа Тамаш. — Наш рэйд — вынік дзейнасці Клуба польска-беларускіх спраў 15/15, што дзейнічае ў II Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы. У арганізацыі рэйду (мерытарычная апрацоўка) дапамагалі Беларускае гістарычнае таварыства і Беларускі саюз.

Як відаць, гайнаўскія ліцэісты — гэта не толькі „нацыянальныя дэгенераты”. Балючыя словы Сакрата Яновіча зусім не пасавалі да ліцэістаў — удзельнікаў рэйду. Наадварот, пабыўка з гайнаўскай беларускай моладдзю была аднымі з самых прыемных і вартасных дзён за час працы на і ў роднай „Ніве”.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



☜ *У Гусаках.*

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Паўліна задзівіла этнографаў



*Паўліна (справа) з сяброўкай.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Плютычы. У будзённы дзень на лавачках многа старых бабуль. Разам з імі сядзела сімпатычная дзяўчынка Паўліна.

— Я ведаю старыя песні, — заявіла яна, калі пачула, як старэчы наракаюць, што няма ў іх голасу.

Паўліна не маніла. Праспявала дзве старажытныя песні. І, праўду кажучы, ашарашыла яна збіральнікаў фальклору.

— Гэтых песень навучыла мяне бабка Ніна, — хваліцца Паўліна.

— Бабка заўсёды ходзіць па панадворку і спявае. А мне яе песні вельмі падабаюцца. Такія іншыя ад тых, што цяпер спяваюць.

Бабка Ніна дадае:

— Я не толькі песень вучу яе, але і табліцы множання.

Паўліна — вучаніца чацвёртага класа Пачатковай школы ў Храбалах.

— Я прымала ўдзел у беларускім дэкламатарскім конкурсе, — кажа дзяўчынка.

Роднае мовы навучае яе спадарыня Мар'я Шаховіч.

— *На вакацыях файно* — кажа мая субяседніца. — Многа сяброў наехала з Беластока, Бельска.

Праўда, у час канікул вёскі маладзеюць. Калі пачнецца новы школьны год, у Плютычах астанецца толькі чацвёра вучняў.

**Зорка**

# Гданьская беластачанка

На вечарыне X Сустрэч „Зоркі", якія праходзілі ў Гданьску, удзельнікі мелі гонар пазнаёміцца са спадарыняй Аннай Сабэцкай. Пані Анна працуе журналісткай Гданьскага радыё і перакладчыцай кніжак з польскай на беларускую мову. Нам было вельмі прыемна, калі даведаліся, што журналістка родам з Беласточчыны. Спадарыня Сабэцкая пасля вучобы ў Варшаўскім універсітэце пачала працу ў Зялёнагурскім радыё. Калі яе папыталі ў ходзе кваліфікацыйнай размовы пра веданне замежных моў, адказала — расейская, французская.

Аднак яе шэф, ведаючы, што спадарыня Анна родам з Беласточчыны, пацікавіўся, ці яна ведае беларускую мову. Пасля станоўчага адказу выняў ён стары матэрыял, які ляжаў у яго каля года. Гэта было інтэрв'ю са спадаром Камінскім — адным з уратаваных ахвяр з хатынскай трагедыі. Спадарыня Сабэцкая ўзялася за прапанаваную задачу. Пасля доўгай працы — трэба было заняцца не толькі рэдакцыяй тэксту, але і перакладам — атрымалася цікавая праграма. Пазней у Зялёнай Гуры з'явіліся радыёперадачы пра беларускую літаратуру. Спадарыня Сабэцкая пачала цікавіцца беларускімі пісьменнікамі і беларускай літаратурай. Пазней прыйшлося ёй жыць у Гданьску. Там таксама паявіліся перадачы пра беларускую літаратуру. Зараз у Гданьскім радыё займаецца яна ўсім, што звязанае з нацыянальнымі меншасцямі.

Вялікай індывідуальнасцю для спадарыні Сабэцкай ёсць Янка Брыль — беларускі пісьменнік і Сакрат Яновіч.

Спадарыня Сабэцкая шкадуе, што не вучылася ў школе беларускай мове.

Мілым сюрпрызам для ўдзельнікаў „Сустрэч" было тое, што журналістка ўзяла ў нас інтэрв'ю. З нецярплівасцю чакаем касету з Гданьскага радыё.

Вельмі прыемна, што «творчыя курсы „Зоркі"» сталі вядомымі не толькі на Беласточчыне, але і ў Гданьску.

**Жанэта Роля**

# Польска-беларуская крыжаванка № 33

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Słońce / Wstyd | ▼ | Ramka | Orzeł | Rózga / Makary | ▶ | ▼ | ▼ | |
| ▶ | | ▼ | ▼ | ▼ | Ryż | ▶ | | |
| Narocz | ▶ | | | | | Ar / Lakier | | Dźwięk / Zupa |
| Smok | ▶ | | | | Las | ▼ ▶ | | ▼ |
| ▶ | | | | | | | 👍 | |
| Referat | | | 📖 | | 📖 | | 📖 | |

# Згублены кашалёк

***(партугальская казка)***

Жыў у Алемтэжу багаты купец. Чым больш грошай ён адкладваў у куфар, тым скупейшы рабіўся. Цэлымі днямі толькі аб тым і думаў, як бы нажыцца і кінуць у куфар яшчэ адну жменю залатых манетак.

Аднойчы ён купіў гурт авечак і прадаў яго з вялікім выйгрышам. Вясёлы, з тугім кашальком у кішэні, купец вяртаўся дахаты з базару. І як было яму не весяліцца! У кашальку пазвоньвалі чатырыста залатых эскуда.

„На гэтыя чатырыста я зноў куплю авечак і прадам іх за васемсот. Куплю новых і зноў прадам удвая даражэй..." — думаў прагны купец і так разлетуценіўся, што згубіў кашалёк з кішэні.

Толькі дома ён заўважыў згубу і разам з тугім кашальком ледзь не страціў розум. Усю ноч ён не спаў, уздыхаў і вохкаў, а раніцай пайшоў да ўладара горада, вялікага герцага, і, нізка кланяючыся, пачаў прасіць у яго:

— О, вялікі герцаг, заступнік няшчасных і абаронца ўсіх сумленных людзей! Выручы мяне з бяды, загадай аб'явіць указ: калі хто-небудзь знойдзе кашалёк з чатырмастамі эскуда, няхай прынясе да цябе і з чатырохсот атрымае сорак як узнагароду.

Герцаг пашкадаваў купца і ў той жа дзень загадаў аб'явіць на плошчы аб згубе і абяцанай шчодрай узнагародзе. А праз тры дні да герцага прыйшла бедная жанчына і аддала яму кашалёк з чатырмастамі эскуда.

— Твая сумленнасць варта ўзнагароды, — сказаў вялікі герцаг і загадаў паклікаць купца.

Убачыўшы свой кашалёк, купец высыпаў грошы на стол і з прагнасцю ўзяўся пералічваць залатыя. Іх было роўна чатырыста. Але цяпер купцу не захацелася расставацца з дзесятай доляй грошай.

— О жанчына! — усклікнуў махляр. — Тут не ўсе грошы! Акрамя гэтых вось чатырохсот эскуда, я паклаў у кашалёк яшчэ чатыры венецыянскія залатыя!

Жанчына спакойна адказала:

— Сеньёр купец, калі б я хацела прысвоіць сабе вашы грошы, я ўзяла б увесь кашалёк і не прынесла б яго сеньёру герцагу.

Усе зразумелі, што яна кажа праўду, але купец працягваў крычаць і лаяць жанчыну.

Канечне, герцаг здагадаўся, што сквапны купец проста не хоча плаціць абяцанай узнагароды, і загадаў яму:

— Падыдзі да мяне і дай сюды кашалёк.

Купец выканаў загад.

Герцаг спытаў:

— Ты сцвярджаеш, што ў тваім кашальку былі яшчэ чатыры венецыянскія манеты?

— Ага, сеньёр герцаг.

— Чаму ж ты не сказаў мне аб гэтым раней? Ці ты хочаш прысвоіць чужое?

І павысіўшы голас, сказаў:

— Гэты кашалёк не належыць купцу. Я таксама на днях згубіў кашалёк, і ў ім было якраз столькі ж залатых эскуда, але не было ніводнай венецыянскай манеты. Значыць, гэты кашалёк мой.

Затым, звярнуўшыся да жанчыны, герцаг дадаў:

— Шаноўная сеньёра, дорыць не той, хто багаты, а той, хто добры, — так кажуць у нас у народзе. Таму вось ты і прынесла сюды гэты кашалёк. Вазьмі ж яго сабе як узнагароду за дабрыню.

І аддаў кашалёк жанчыне з усімі эскуда.

А сквапны купец пайшоў ні з чым і надоўга стаў пасмешышчам для ўсяго Алемтэжу.

# Дзённік XI Сустрэч

**8.07.1997 (аўторак)**

XI Сустрэчы „Зоркі" пачаліся ў Студзіводах. Сюды прыехалі вучні пачатковых школ і ліцэісты. Мы пасяліліся ў скансэне Дарафея Фіёніка — стогадовай хаце. Разам з нашымі апекунамі: Ганнай Кандрацюк, Валянцінай Бабулевіч, Алегам Кабзаром, Дарафеем Фіёнікам, Тамашом Саевічам і Аняй Фіёнік быў айцец Рыгор Сасна. Святар пачаў нашае мерапрыемства малітвай. У сувязі з тым, што мы размалёўвалі крыж, айцец Рыгор Сасна і настаяцель Уваскрэсеньскага прыхода айцец В. Блізнюк, паблагаславілі нашу задуму. Яны пасвяцілі наш крыж. Пасля малітвы мы ўзяліся за працу. Гэта ўжо пяты каляровы крыж на Беласточчыне.

**9.07.1997 (серада)**

Сённяшні дзень прывітаў нас сонцам і лёгкім ветрам. У час такога прывабнага надвор'я многія малявалі крыж. Яшчэ іншыя мелі час на запісванне дзённікаў, легенд, песень. Людзі, якіх мы з сяброўкай сустрэлі, былі вельмі ветлівыя. Ад іх пачулі мы легенду пра тры крыжы ў Студзіводах і пра алескі двор. Надвор'е спрыяла пошукам. На вуліцы можна было сустрэць многа людзей. Усе хацелі нам дапамагчы, хаця некаторыя былі нетутэйшыя.

Пад вечар мы пайшлі асвячаць крыж. Наша група ішла з запаленымі свечкамі. Асвячэнне крыжа здзейсніў айцец В. Блізнюк. Разам з намі было многа людзей. Здарылася, што некаторыя цёткі ўголас расхвальвалі наш крыж.

Вечарам было вогнішча.

**10.07.1997 (чацвер)**

Сёння пачынаецца рэйд. Шкада пакідаць гасцінныя Студзіводы. Тут распяшчалі нас смачнымі пірагамі, а бабуля Томка Сідорская аж два дні даносіла нам свежыя булкі, мама Дарафея Фіёніка прыдумвала смачныя салаты і стравы.

Мельніцкім гасцінцам рушылі мы ў Кнарыды. Па дарозе завіталі ў Пілікі. Там раздзяліліся на чатыры групы і пайшлі збіраць легенды, старыя песні, спісваць надпісы на старых крыжаж і назвы ўрочышчаў. Мне найцікавей было пачуць старыя песні, якія праспявалі бабулі. Некаторыя з іх



*Хата ў Кнарыдах.* Малюнак Пятра ДЗЕМЯНЮКА

я чула ў сваёй роднай вёсцы Елянцы. Вечарам мы сустрэліся з „Бярозкамі" з Кнарыд, з якімі наладзілі супольнае вогнішча. Некаторыя песні спявалі мы разам.

У Кнарыдах зацікавіла нас крыніца і каплічка. Людзі расказвалі, што вада са святой крыніцы дапамагае пацярпеўшым. Побач крыніцы ляжыць камень, на якім тройчы адціснуты ступні Божай Маці.

Начавалі мы ў будынку мясцовай школы.

**11.07.1997 (пятніца)**

У Кнарыдах многа дзяцей і моладзі. Большасць з іх прыехала сюды на канікулы. У школе няшмат вучняў, вёскі адміраюць. Мы нават пасябравалі з тутэйшымі школьнікамі. Усе яны ведаюць „Зорку". Некаторыя з іх хацелі ісці з намі ў далейшае падарожжа.

Па дарозе ў Мокрэ мы збіралі чарніцы і суніцы. А ў Мокрым раскупілі ўсе *чыпсы*, бо якраз пад'ехала аўтакрама.

Незабыўнай атрымалася вечарына ў Дубяжыне. Да нас прыйшлі спевакі з калектыву „Родына". Многія з нас упершыню пачулі прыгожае, галасістае выкананне народных песень.

Увечары нашы апекуны наладзілі жартаўлівы тэатр, дзе высветліліся манеры і паводзіны некаторых удзельнікаў. Раніцай разбудзілі нас куслівыя мухі.

**12.07.1997 (субота)**

Царкву ў Падбеллі толькі што адрамантавалі. Усярэдзіне пахла яшчэ фарбай. Прыхаджане рыхтаваліся да прыхадскога фэсту на св. Ілью. Побач царквы шмат старых крыжоў.

У Тапчыкалах спаймаў нас дождж. Пазней мы раздзяліліся на групы. Адны завіталі ў Кашалі, іншыя пайшлі ў Орлю. Там мясцовыя школьнікі падрыхтавалі нам вогнішча. На вечарыне прысутнічаў войт гміны спадар Міхась Іванчук і настаўніцы. Войт запрашаў нас на фэст, які меў адбыцца на наступны дзень. Многія нават вельмі хацелі астацца на гэтым мерапрыемстве. Нашы апекуны ўсё ж адвезлі нас дадому. За намі было шмат уражанняў і далёкая дарога. Аж цяжка паверыць, што перайшлі мы такі адрэзак дарогі па Бельшчыне і так многа навучыліся.

**Паводле дзённікаў**
**Басі Казімерук**
*Фота Ганны Кандрацюк*



*Айцец Рыгор Сасна пачаў мерапрыемства малітвай.*

# Вацлаў Ластоўскі

Нарадзіўся ў 1883 годзе ў Калесніках, што ў Глыбоцкім раёне. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, дзе разам з братамі Луцкевічамі і Вацлавам Іваноўскім быў адным з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў студэнцкім асяроддзі. У 1906 годзе Вацлаў Ластоўскі пачаў працу ў рэдакцыі „Нашай нівы". Шмат гадоў быў там сакратаром і адначасова найбольш таленавітым публіцыстам. Асабліва цікавіўся гісторыяй роднага краю. У 1910 годзе паказалася яго праца „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі". Была гэта першая навуковая апрацоўка, якая прадстаўляла Беларусь як уціснутую паміж Польшчу і Расію краіну, якая мела сваю гісторыю, традыцыю, культуру затаптаную і зафальшаваную акупантамі.

Калі пачалася першая сусветная вайна, Ластоўскі пачаў выдаваць часопіс „Гоман", у якім прапагандаваў ідэю незалежнай беларускай дзяржаўнасці. Прымаў ён актыўны ўдзел у агульнабеларускай дыскусіі наконт будучыні Бацькаўшчыны. Быў сярод тых, якія намагаліся стварыць самастойную Беларусь у этнічных межах. У снежні 1919 года быў ён выбраны старшынёй Рады міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі Беларусь у 1920 годзе нанава апынулася пад польскай і расейскай акупацыяй, Ластоўскі ўзначаліў беларускі эміграцыйны ўрад, які знаходзіўся у сталіцы Літвы Коўне. У 1927 г. пакінуў ён палітыку і пераехаў жыць у Савецкую Беларусь. Стаў працаваць у Акадэміі навук Беларусі. Быў таксама дырэктарам Дзяржаўнага музея.

Бальшавікі не забылі аднак пра ягоную дзейнасць у карысць незалежнай Беларусі. У 1930 годзе пачаліся арышты, забойствы, ссылкі стваральнікаў беларускай культуры, навукі, палітычных дзеячаў. Арыштаваны быў таксама Вацлаў Ластоўскі. Саслалі яго ў Саратаў. У 1938 годзе камуністы расстралялі яго так, як дзесяткі тысяч іншых найбольш выдатных сыноў Беларусі.

# *Чараўнік*

*Музыка Зміцера Яўтуховіча*
*Словы Алеся Бадака*




Далёка-далёка ў лясной цішыні
У хатцы пад ёлкай жыве чараўнік.
Учора ён позна у госці хадзіў
І вельмі сур'ёзна на ветры прастыў.
Не трэба тужыць або плакаць падоўгу,
Заўсёды сябры у бядзе дапамогуць.

Ах, бедны, ах бедны лясны чараўнік!
Не можа абедаць, сны кепскія сніць.
Ён з твару змяніўся, і, страшна сказаць,
Ужо развучыўся зусім чараваць.

Ды хто гэта там, хто там стукае ў дзверы?
Глядзіць чараўнік і не можа паверыць:
Стаяць ля парога мядзведзь і сарока,
Ваверка з ваўком, і камарык з жуком.

Далёка-далёка ў лясным гушчары
Ля хаткі пад ёлкай сышліся сябры
Прынеслі маліны, і мёду, і траў.
Ах, дзякуй ім, мілым лясным жыхарам.
Не трэба тужыць або плакаць падоўгу,
Заўсёды сябры у бядзе дапамогуць.

# Мат(ь) Цімашэвічу

Будучы нядаўна ў Гайнаўцы пашчасцілася мне пачуць пра адно цікавае здарэнне. Паколькі належыць яно да катэгорыі „нарочно не придумаешь”, разважаў я, ці гэта не анекдот. Але ж ведаючы мазгавітасць нашага люду, схіляюся да высновы, што здарэнне адбылося ў сапраўднасці.

Недзе год таму быў здадзены ў карыстанне новы гайнаўскі шпіталь, на ўрачыстым адкрыцці якога прысутнічаў сам першы міністр Рэчы Паспалітай Уладзімеж Цімашэвіч. Пад шпіталем, каб пабачыць свайго любімца, сабраўся і яго найвярнейшы электарат. І вось, пакідаючы ўжо ўрачыстасць, высокі госць заўважыў сабраных цікавасцю бабулькі і падышоў да іх.

— Hajnówka taka mała, a ma już i liceum, i szpital, — загаварыў прэм’ер пра тамашняе новае, якое паявілася ў часе яго бытнасці на высокіх пасадах.

Але ж нашы людзі і ад сябе хочуць таксама нешта важнае сказаць. З групкі паклоннікаў высунулася кабета і, кажуць, пацалавала Цімашэвіча і так сказала нашаму вучыцелю-лячыцелю:

— Synku! Ty nic nie rób, tylko rządź tak jak komuniści.

Як правілі камуністы, ці як яны мелі правіць, крыху вядома: *wierzący* лічылі, што пры камунізме кожнаму будзе паводле патрэбаў; *wierzący i praktykujący* правадыр-*электрык* гаварыў, што камунізм — гэта савецкая ўлада плюс электрыфікацыя; калгаснікі ж, што спрактыкавалі на ўласных страўніках і спінах яго дабрадзействы, нат ад сэрца шчырым вершам апісвалі:

*Ні авечкі, ні свініэ,*
*Туолькі Сталін на сциніэ.*

Бедны Цімашэвіч! Уведзены ў зман гнілымі замежнымі імперыялістамі ды тутэйшымі, варожымі нашаму люду, іх памагатымі, *oderwał się od mas* і падумаў, што патрэбныя тут нейкія школы ці шпіталі...

Сталіна на ніх тыльков тшэба, на тых бялорусуф! **(ав)**

# „Белавежцы” ў СПБ

У Саюз пісьменнікаў Беларусі прыняты былі некалькі членаў Беларускага літаратурнага аб’яднання „Белавежа”. З аднаго боку раней уладамі СПБ было прапанавана, каб „белавежцы” стараліся, каб прыняць іх у рады прафесіянальных літаратараў Беларусі, з другога — старшыня Васіль Зуёнак зусім неспадзявана пачаў абурацца з трыбуны апошняга з’езду СПБ, як гэта можа быць так, каб нейкія члены літаратурнай групкі з Польшчы хацелі вось так стаць членамі Саюза, без разгляду (?) адпаведных секцый прозы, паэзіі ці літаратурнай крытыкі (быццам іхняя прафесійнасць не была ўжо зверыфікавана Саюзам польскіх пісьменнікаў, членамі якога ў большасці яны з’яўляюцца). Выглядала на тое, што або хтосьці робіць жарты, або хоча паказаць сваю ласку. А калі яшчэ атрымалі нашы літаратары нейкія савецкія паперы, якія трэба было выпаўніць, з пытаннямі па-руску пра, напрыклад, партыйнасць і *прочее*, дык доўгі час нікому тае ласкі і не хацелася рабіць...

Дагэтуль членамі СПБ былі **Алесь Барскі, Міра Лукша** і **Мікола Гайдук**. У апошні час да „адважных” далучыўся і **Васіль Петручук**, аб чым даведаўся ён з тыднёвіка „Літаратура і мастацтва”.

Членамі прэстыжнага ПЭН-клуба з’яўляюцца найбольш вядомы „белавежац” **Сакрат Яновіч** і старшыня „Белавежы” **Ян Чыквін**.

**(лук)**

# Беларускае мастацтва ў Гданьску

З 17 ліпеня да 8 жніўня ў Гданьску ў Расейскім доме навукі і культуры (вул. Длуга 35) экспанавалася выстаўка беларускага мастацтва. Выстаўка ўражвала аглядальніка сваім багаццем. Можна тут было пабачыць карціны мастакоў: Валера Шкарубы, Марыны і Міколы Ісаёнкаў, Уладзімера Хадаровіча, Уладзімера Сулкоўскага і Аляксандра Унукава. Прадстаўлялі яны перад усім пейзажы Беларусі. Выстаўка была спалучана з продажам. Адна, напрыклад, карціна В. Шкарубы каштавала 1800 зл. Можна было ўбачыць таксама прыгожыя габелены Паўла Бондара, якія формай нагадвалі ручнікі. Таксама прыгажосцю прываблівалі размаляваны па мастацку шоўк. У асобным кутку прэзентавалася вопратка з лёну, вязаныя на прутках камізэлькі, сукенкі і т.п. Асабліва багата прадстаўлялася народнае мастацтва Беларусі — вырабы з саломы і кераміка многіх аўтараў. Увагу прыцягваў саламяны конь, выкананы Лідзіяй Глаўацкай з Менска. Найбольшай папулярнасцю сярод наведвальнікаў карысталіся саламяныя кветкі Ані Івановай з Заслаўя, якія можна было купіць па 10 зл. за адну, але зніклі яны ўжо на першым тыдні выставы. Маю ўвагу прыцягнулі шкатулкі і яйкі з партрэтамі Касцюшкі, Міцкевіча, Агінскага, выкананыя Оляй Івановай з Віцебска. Таксама на выстаўцы — з нагоды 1000-годдзя Гданьска — былі вырабы з эмблемамі Гданьска: гліняныя званочкі Панамарэнкаў (бацькі і сына), і аплікацыя саломкай з відамі Гданьска Валянціны Паўлавай. Выстава настолькі была разнастайнай, што цяжка прадставіць усіх майстроў, якіх працы там экспанаваліся, а, як сказаў куратар выставы, і так не было месца, каб паказаць усе прывезеныя экспанаты. Самае важнае, што выстава карысталася папулярнасцю. Шмат прахожых па Старым Горадзе заходзілі сюды, каб пабачыць беларускае мастацтва, некаторыя нешта куплялі. Мне, дарэчы, спадабалася тое, што цэны на ўсе гэтыя працы пастаўлены былі на адпаведным узроўні, што дзівіла часам наведвальнікаў, бо калі гэта „рускае”, то яно павінна быць таннае, а тут, напрыклад, прыгожая мужчынская вышываная кашуля каштавала 250 зл., ці шкатулка з Агінскім — 230 зл. На памятку можна было купіць сабе анёлка з саломы за 8 зл. — і гэта, мабыць, самы танны сувенір на гэтай выставе.

Выстаўка адбылася дзякуючы намаганням Генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Гданьску Анатоля Бутэвіча. З беларускага боку экспанаты падрыхтавала творчае аб’яднанне „Славутасць” з Менска, якое існуе ад 1993 г. і гуртуе больш за 400 народных майстроў. На выстаўку з экспанатамі прыехаці дырэктар фірмы Алена Спірыдонава, экскурсавод Марына Каржанеўская і мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік. Яны і апекаваліся выставай увесь час, прадстаўляючы наведвальнікам аўтараў, тэхніку і асаблівасці беларускага мастацтва, так прафесійнага, як і народнага.

**Лена Глагоўская**

# Пайсці па розум

Нядаўна я даў грошы на вуліцы хлопцу, што стаяў з таблічкай. Бамбіза выглядаў на здаровага, быў нават вельмі прыгожы, загарэлы не толькі ад стаяння на вуліцы, але, пэўна, і ў час плавання на парусной лодцы. Але таблічка з надпісам пра яго біду стаяла побач на тратуары. Затрымаўся і я з цікавасці, хоць абрыдла сягаць мне ў кашалёк, каб адчапіцца ад прафесійных жабракоў або ад іх уцякаць. Бо людзі сапраўды хворыя і бедныя не так стаяць, не так напрошваюцца, ды і на гэтыя больш прэстыжныя месцы ў горадзе „прафесіяналы” іх не пускаюць, з віскам праганяюць, каб не адбіралі ў іх здабычы. А на гэтага вось нават „бывальцы” спосабу не знайшлі; дарэчы, хто справіўся б з гэтым студэнтам ці ліцэістам, каротка астрыжаным і мускулістым? Ну, але як тут і прычапіцца, крычыць жа са свае таблічкі: „Rodacy! Narodzie polski!” Збірае вось ён *на аперацыю нагі, каб змагчы падацца на аперацыю галавы.*

Мне спадабаліся гумар і паслядоўнасць, і я паклаў у каробачку з-пад ботаў два злоты. Адзін на адну справу, другі — на другую, а далажыў яшчэ адзін злот, каб распытаць пра рэакцыю прахожых. «Іду я такім чынам па розум у галаву, — паясніў хлопец. — А для гэтага патрэбныя мне моцныя ногі. І з цікавасці так стаў, каб пабачыць, ці народ у нас пісьменны, і ці ўвогуле чытае. І ці яму чытаць хочацца, прывыкламу да карцінак. Некаторыя, не чытаючы, гыркаюць: „No to nie trzeba było ćpać!” — бяруць мяне за наркамана, хворага СНІДам, хоць, як бачыце, я здаровы як бычок. Іншыя крычаць: „А да работы ўзяўся б, дармаед!” Ну, у мяне канікулы, збіраю вопыт на будучыню. Іншыя чытаюць, смяюцца, ідуць далей, а яшчэ іншыя кідаюць, як і вы, грош за гумар. А я грошы выдам на кніжкі, ёсць такія добры выданні, дзе людзі з Захаду нам раяць, як хутка разбагацець. Ну, мяне пасля канікул чакае беспрацоўе, я ужо даведаўся. Ага, яшчэ піўцо віп’ю ў „Ратушовай”».

Прыгадалася мне гісторыя з Кракава. Не мелі мы ўжо грошай не то што на піва, але нават каб дабрацца хоць у Варшаву. Апранулі мы свайго сябра, цяпер вядомага этнакультуролага, у лахманы, пасадзілі пад мур касцёла з парваным капелюшом. Сядзіць наш патлаты сябра, насунуўшы кепку на нос, толькі калматае барадзішча відаць, падвінуў худыя ногі пад сябе, згорбіўся, працягнуў дрыжачую далонь да прахожых. Не стрымалі мы, разрагаталіся на ўсе пашчэнкі. І падышоў да нас чалавек сталага ўзросту, абураны нашымі паводзінамі: як можна вось так смяяцца з чужое біды? Можа і не быў ён „дзядзька багаты”, а можа і амерыканскі турыст, што прыехаў наведаць радзіму, але ў капялюх нашага сябра паклаў столькі грошай, нам у прыклад добрых учынкаў, што нам хапіла не толькі на дарогу дамоў, але і на добрае піва ўжо ў Беластоку.

Праўда, дагэтуль у сэрцы мне штосьці шчыміць, калі ўспамінаю тую гісторыю. І пэўна таму, калі не магу даць штосьці чалавеку, які стаіць пад сцяной і вачэй падняць не смее, каб прасіць дапамогі, і мяне нешта горбіць да зямлі. А вось аж тры злоты я даў таму залатаваласаму, загарэламу маладому смехуну з вуліцы Ліповай, „які пайшоў па розум у галаву”...

**Вандал Арлянскі**

# Бібліяграфія са свойскім акцэнтам

Якую вартасць прадстаўляе „Бібліяграфія Белавежскай пушчы”, якой паасобныя тамы апрацоўвае д-р інж. Чэслаў Аколаў, ведаюць найлепш вучоныя, якія вядуць тут рознабаковыя даследаванні, школьнікі і студэнты, якія пішуць дыпломныя працы, журналісты, краязнаўцы, дзеячы аховы прыроды і г.д. Справа ў тым, што аб нашай жамчужыне напісана ўжо столькі, што без спіска ўсіх гэтых публікацый проста немагчыма абысціся. Паводле маіх падлікаў, на сённяшні дзень напісана аб Белавежскай пушчы не менш як 15 тысяч публікацый. Пяць дагэтуль выдадзеных у 1966, 1976, 1983, 1991 і 1997 гг. тамоў „Бібліяграфіі Белавежскай пушчы”, улічваючы перыяд да канца 1990 г., называюць разам 8961 публікацыю.

Навейшы, пяты том бібліяграфіі, выйшаў напрыканцы ліпеня г. Ён улічвае публікацыі, якія паявіліся за 1986—1990 гг. (разам ёсць іх 1417), і дапаўненні да раней выдадзеных тамоў (233 анатацыі). Нам прыемна заўважыць, што ў згаданым томе названы аж 143 артыкулы, паэтычныя творы і лісты чытачоў, якія былі надрукаваны на старонках „Нівы”. Найбольш аб Белавежы і Белавежскай пушчы „намахаў” ніжэйпадпісаны — 76 артыкулаў. 7 белавежскіх публікацый на сваім рахунку мае В. Валкавыцкая, 4 — Д. Бічэль-Загнетава, па 3 — А. Барскі, М. Лукша, В. Рудчык, па 2 — А. Аніпэўская, Ю. Баена, М. Гайдук, А. Гаўрылюк, М. Мамус, М. Хмялеўскі, А. Чачуга, М. Шаховіч, (яц), па адной — Л. Баравіцкі, А. Баршчэўскі і А. Барташэвіч (супольна), (В. Б.), Л. Генюш, У. Завадскі, Я. Зенюк, В. Коўтун, В. Ляшкоўскі, В. Луба, І. Лукша (Аўрора), Я. Максімюк, М. Панфілюк, В. Петручук, У. Праховіч, К. Пятэльскі, А. Л. Рупрэхт, (С. В.), Я. Семянюк, В. Стахвюк, (ся), Я. Целушэцкі, М. Чарняўскі, Я. Чэрнякевіч, В. Швед, С. Шушкевіч, У. Юзвюк, К. Юрачэк, А. Ялоза. Адзін артыкул ананімны.

У апошнім томе называюцца таксама артыкулы, якія былі надрукаваны ў „Беларускіх календарах”, выдаваемых ГП БГКТ, ці паэтычныя творы з белавежскімі матывамі, змешчаныя ў зборніках беластоцкіх беларускіх паэтаў (Ю. Валкавыцкі, М. Гайдук, Я. Чыквін). Але беларускім акцэнтам на гэтым не канец. У бібліяграфіі часта натрапім на артыкулы, якія былі надрукаваны ў прэсе ў Беларусі. Што і раш мільгаюць „Родная прырода”, „Голас Радзімы”, „Лесоведение и лесное хозяйство Белоруссии”, „Весці АН БССР” а таксама шмат загалоўкаў зборнікаў дакладаў з навуковых семінараў і сімпозіумаў, што адбываліся ў Беларусі, а нават энцыклапедычныя выданні.

Тыя, хто зацікаўлены апошнім як і раней выдадзенымі тамамі „Bibliografii Puszczy Białowieskiej”, павінны звяртацца па адрасу: Białowieski Park Narodowy, Pracownia Naukowo-Badawcza, Park Pałacowy 5, 17-230 Białowieża.

**Пётр Байко**

# Век гора

Міхалу Казберуку з Юшкавага Груда ўжо 93 гады; нарадзіўся ён у 1904 годзе. У 1914 годзе сям'я яго падалася ў Расію ў бежанства.

— Ехалі мы праз Зэльву ў Баранавічы, — расказвае. — Там пакінулі коней і далей паехалі поездам. Заехалі аж у Нованікалаеўск; цяпер Новасібірск. Моцныя маразы там стаялі і ўжо ў першую зіму памерла маці. Сам я таксама захварэў, і хаця выжыў, здароўе ўжо моцна надарвалася. У сям'і былі яшчэ брат і дзве сястры. Брат апынуўся аж у Барнауле; ездзіў да яго і я. Быў там вялікі пруд, такі як наш *заліў*, што ў Бандарах. Іду я раз па масце, а тут каля мяне кулі засвісталі; было ўжо гэта пры бальшавіках. У брата быў сусед — яго сярод ночы забралі ў *овраг* і там застрэлілі. Калі бальшавікам нешта хто сказаў насупраць, адразу капут! Сёстры павыходзілі замуж. Пасля вайны адна жыла ў Шымках, а другая паехала аж у Галіцыю. Яе сям'я мела толькі паўморга зямлі. Прастыла яна раз, не было за што лячыцца і памерла ў 1922-м годзе. Вярталіся мы на радзіму ў 1921-м годзе. Прыехалі з Нованікалаеўска ў Омск, а там нам загадваюць выгружацца. Але адзін такі сказаў нам, каб нікуды не выгружаліся. Ну і стаялі мы там аж два месяцы, але паехалі далей; хлеб, помню, пяклі ў вагоне. У Маскве нас зноў загналі ў тупік і трымалі там два тыдні. З харчамі клопатаў у нас не было, бо бацька быў першым гаспадаром у вёсцы, і калі нават пры бальшавіках вярталіся, то былі яшчэ грошы.

Калі прыехалі дадому, хата без вакон стаяла. І стол быў — ён яшчэ ў мяне ёсць. Памагалі нам таты сёстры; адна з іх жыла ў Смольні, а другая ў Гарбачах. І татаў брат з Залешан. Цяжка нам было, таксама калі ажаніўся і стаў самастойна гаспадарыць. Мой брат жыў у Варшаве, працаваў аптэкарам, зарабляў там шэсцьсот злотаў! А калі прыязджаў да мяне, дык не глядзеў, ці я што маю ці не, толькі яйкі ці мяса браў як сваё — бо я абрабляў яго ўчастак.

А колькі гора вайна прынесла. Як у 1941-м годзе ішоў фронт, немцы забілі нашу пяцігадовую дачку — у жонкі на руках яна памерла. За нашаю хатай была хваіна, там рускія заселі, сем чалавек, і пачалі страляць у немцаў. А немцам здалося, што гэта з нашай хаты, і па нашай хаце два снарады пусцілі, печ развалілі. І страляць пачалі, і куля ў дачушку нашу папала.

І пасля вайны гора нас не пакідала. У 1966-м годзе ў войску загінуў наш сын, пабілі яго ў Варшаве. Заехаў я ў шпіталь, то яшчэ жыў. Вока толькі адкрыў і сляза пакацілася. Вярнуўся я, не дайшоў яшчэ дадому, а мне ўжо кажуць, што яго няма. Пераапрануўся я толькі і паехаў забіраць...

Адзін сын у Беластоку жыве, і ўнукі ёсць. Цяжка яму цяпер, бо фірму, у якой працаваў, раскідалі, і цяпер прыходзіцца на прыватным намагацца. Папсавалася ў нас помпа, далі мы ім грошай на яе, а яны просяць яшчэ даць.

Калісь, калі заеду ў Міхалова, усе мяне знаілі. А цяпер няма ўжо іх, паўміралі. І самі з сіл выбіваемся. У жонкі ногі хворыя, ужо з хутара ў вёску не зойдзе; і зрок слабы, на адно вока зусім не бачыць і другое ўжо таксама зацягае, быццам імглою. За хлебам у юшкаўскую краму хаджу я, але ўжо мушу ў вёсцы адпачываць.

* * *

Спытаў я свайго суразмоўцу, як іх у бежанстве прынялі тамашнія людзі. Людзі, як людзі, адказаў ён нейтральна. Быў там ужо адзін з Гродзеншчыны, прыбег і, даведаўшыся, што землякі, сказаў каб што прынесці яму.

Крыху здзівіла мяне гэта, бо дагэтуль чуў я пра аўтахтонных рускіх адно адны пахвалы. Але, праўду кажучы, даводзілася мне гэта чуць пра тых, што пражывалі ў еўрапейскай частцы Расеі. А гэта ж была ўжо Сібір, а там больш пэўна navалачы: шукальнікаў прыгод або ссыльных, не ўсе з якіх былі анёламі; і таму, хіба, такая ацэнка.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Злавесны зялёны дуб

**Яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя вакол Орлі раслі фрагменты пушчы. З баку Кашалёў цягнуўся сасновы Бор, з боку Рудут — Чорны лес. Там, на ростані дарог з Орлі ў Рудуты і Дубічы-Царкоўныя, тры кіламетры ад мястэчка, знаходзілася месца цёмных сілаў.**

Расказвае **Аляксандр КАРНЕЕЎ** — 87-гадовы жыхар Орлі:

— Калі арляне ў 1915 годзе падаліся ў бежанства, то нават там, у Расіі, распытвалі пра наш злавесны, жахлівы зялёны дуб. Было гэта вялікае і вельмі старое дрэва, але што з ім сталася, ніхто ўжо не памятае. Помню, што трохі далей ад гэтага месца раслі маладыя дубы і мы, дзецюкі, залазілі на іх ламаць галінкі на палазы для санак. Калі мы вярнуліся з бежанства ў 1918 г., то Чорны лес быў такі густы і высокі, што сонца не было відаць, а мох высіўся на паўметра. А Бор, што знаходзіўся між Орляй і Кашалямі, вырас так высока, што, здавалася, сосны з небам размаўляюць. Потым людзі сталі секчы лес, раскрадаць драўніну.

Падчас І сусветнай вайны побач зялёнага дуба салдаты закапалі ў зямлю сваю ваенную касу — залатыя манеты, каб не папаліся яны ў нямецкія рукі. Людзі потым шукалі гэты скарб, але безвынікова.

У Чорным лесе жылі такія птушкі, якіх бекачамі ў нас называлі. Спявалі яны голасам падобным на бляянне авечак і зводзілі падарожнікаў з дарогі. Людзі блудзілі па лесе, ідучы за голасам птушкі, якая адзывалася то ў адным, то ў зусім другім месцы. Заблудзіўся ў гэтым лесе таксама арлянскі свяшчэннік а. Уладзімір Цэхан.

Было гэта пры санацыі. З базару вярталіся два яўрэі, якія на фурманцы везлі барана. Калі даехалі да зялёнага дуба, конь спыніўся і нават капытам паварушыць не мог, адна толькі пена з мызы валілася. Старазаконныя сышлі з фурманкі, сталі падганяць каня, а ён з месца зварушыцца не можа. У канцы дадумаліся яны скінуць з воза барана. Калі толькі гэтае зрабілі, раптам раздаўся грукат, нешта засвістала па ўсім лесе і баран... прапаў. І толькі пасля гэтага конь рушыў. Яўрэі тлумачылі потым, што на іхняй фурманцы быў не баран, а толькі сам чорт.

У трыццатых гадах наша сям'я капала на полі пад Чорным лесам бульбу. Праходзіў сюдою мой калега, Ян Савіцкі з Рудут, які вяртаўся ў сваю вёску. Дарога была шырокая, пясчаная, з мноствам слядоў. Ён, аднак, невядома чаму сышоў з дарогі і падышоў да нас на поле распытваць як папасці ў Рудуты. Мы яму паказалі дарогу, ён пайшоў і праз нейкі час вярнуўся, бо не мог знайсці дарогі. Бедалага тройчы так вяртаўся.

Каля зялёнага дуба многія людзі блудзілі. Нешта зводзіла іх з дарогі, але што гэта было, ніхто не ведае.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Аляксандр Карнееў стаіць на месцы, дзе рос зялёны дуб.*

<u>Якія мы людзі</u>

# Шчупак

Рыба не брала. Тыя, што прыехалі на Сувальшчыну перш за ўсё дзеля таго, каб павудзіць рыбу, хадзілі злосныя, як ваўкі. Адны лічылі, што не бярэ яна з-за нестабільнага надвор'я: увесь час штарміла. Іншыя, як заўсёды, звальвалі віну на Усход: вецер з Усходу — рыба ходу, казалі яны, шматзначна ківаючы галовамі.

З адным чалавекам мы ледзь не пасварыліся. Заўсёды мы аддавалі для яго рыбы бульбу, якой не даелі ў сталоўцы, і зычылі ўсяго добрага, а тая як не брала, так не брала. Прашу не жадаць мне поспеху, ніхто ў вас гэтага не просіць, сказаў ён нам аднойчы. Учора вунь адзін мне зычыў злавіць шмат рыбы, дык я ўжо ведаў, што нічога ў гэты дзень не злаўлю.

— Дык што, — не вытрымала я, — мы маем прытварацца, што зусім вас не ведаем?

Чалавек замоўк, а яго жонка зарагатала. У душы мы і так зычылі яму поспеху, бо як-ніяк любілі гэтага чалавека.

Штодзень уставаў ён а чацвёртай раніцы і выплываў на возера нанятай на цэлы месяц лодкай.

Чалавек даслоўна жыў гэтай рыбай, і мы стараліся яго зразумець. Калі лавіў сваю драбніцу, раздаваў яе людзям: гэтая рыбка яго не цікавіла, а тыя, што не лавілі, ахвотна смажылі і такую. Ён паляваў на та-а-акую рыбу!

Чалавек гадзінамі сядзеў на возеры, у пагоду, і ў дождж. Быў на сонцы, а паколькі лекар забараніў яму загараць, завешваў сабе шчыльна галаву і шыю нейкай шапкай з апушчаным ад яе палатном, у чым выглядаў, быццам нейкі араб у пустыні. Рукі яго былі прыкрыты кашуляй з доўгімі рукавамі, а ногі — нагавіцамі.

Наконт рыбы чалавек ведаў усё, балазе быў заслужаным працаўніком асветы. Ведаў нават, як у Сібіры (у якой дарэчы ніколі не быў) вараць уху. Уха там без ярша — гэта не уха! На яршах спачатку там вараць булён, пасля працэджваюць яго праз льняную анучку, а толькі тады ўжо кідаюць кавалкі рознай рыбы. Так расказваў ён, а ў слухачоў цякла слінка.

З тым большай прыкрасцю вяртаўся ён да рэчаіснасці, перапоўнены чаканнем. Калі б быў цяпер дома, у Варшаве, то ўжо паехаў бы да знаёмага, які меў некалькі ставаў і дазваляў вудзільшчыкам самім лавіць там рыбу. Рыбы там было, праўда, поўна, адна на адной, ды і за кожную злоўленую штуку трэба было заплаціць амаль так, як у краме. Але ўсё-такі... чалавек набіраў пашаны да сябе: злавіў жа, а не купіў...

А тут — ні халеры! Хоць ты лопні.

І раптам... вудачка затрапяталася. Падцягнуў яе — і ўсё ў сярэдзіне замерла. На канцы вісела цяжэзная рыбіна, шчупак кілаграма так на паўтара.

Ну, каб быў тады чалавек на лодцы адзін, дык мо яму і не паверылі б. Але ж узяў якраз з сабою сына, дзесяцігадовага хлапчука. Няхай вучыцца! Добра, калі дзіця ідзе па слядах бацькоў і хобі ў яго тыя ж самыя. У жыцці гэта лічыцца.

Але на гэты раз думаў, што сына затаўчэ. Толькі падцягнуў ён тую вудачку (а сэрца, здавалася, зараз выскачыць з грудзей), каб зняць тую рыбіну, як хітры шчупак (сам быў драпежнікам) напружыўся і скочыў з ненавіснага кручка проста ў родную водную стыхію.

Нешта абарвалася ўнутры гэтага чалавека. Шчасце, якое было так блізка, быццам малы верабейчык, выпырхнула з яго рук.

Дзён пяць жыццё ў доме адпачынку ішло ў рытме ўцёкшай рыбы. Усе ўжо ведалі пра тое здарэнне. Вудзільшчыкі спачувалі яму, неспакушаным у рыбных справах было смешна. Чалавек расказваў пра таго шчупака, што бліснуў на яго вудачцы, направа і налева, успамінаў пра яго, быццам пра збеглую каханку. Песціў рыбіну ў сваіх марах, і позірк яго быў тады скіраваны кудысьці ўдаль, у нябачнае.

Дзён пяць чалавек хадзіў, як паўпрытомны. Ужо забываўся нават, каму гаварыў пра таго шчупака, а каму яшчэ не. Паўтараўся. Адзін адпачываючы, выслухаўшы яго ўжо не першы раз, з нейкай літасцю глянуў на яго, а пасля адвярнуўся і пастукаў сабе ў лоб.

На шосты дзень нешчаслівец не вытрымаў. Паехаў у Сувалкі і выбраў у рыбнай краме найбольшага шчупака, які там толькі быў. Мо нават і два з паловай кіля важыў. Прывёз яго ў асяродак, але галоўным чынам не дзеля таго, каб яго з'есці. Даў жонцы ў рукі фотаапарат і загадаў зрабіць здымак: яны з сынам удваіх ледзь трымаюць вялізнага шчупака, та-а-а-кую рыбу!

І толькі тады, калі няпраўда ў яго хворым уяўленні сталася праўдай, чалавек супакоіўся. Будзе аб чым расказваць у Варшаве, калі выме гэты здымак з кішэні на сэрцы і пакажа яго ўсім сабраным на цётчыных імянінах.

**Ада Чачуга**

# Пяць тысяч кіламетраў на аўтобусе

Турыстычнае бюро „Наватар" у Беластоку ўключыла мяне ў экскурсію ў Італію.

Па дарозе знаёмілімся мы са сталіцай Славакіі Браціславай, маляўніча распалажанай па абодвух баках блакітнага Дуная. Неўзабаве ўязджаем у славутую Вену, сталіцу Аўстрыі. Большасць помнікаў Вены адносіцца да эпохі барока: палацы Шонбрун, Гофбург, ансамбль Бельведэр, венская опера, прыгожы комплекс парламента.

Аўтастрадамі, гладкімі як стол, пераехалі мы маляўнічыя Карпаты, Альпы і Апеніны, акунаючыся ў звыш сорак тунеляў пад горнымі масівамі.

**Фларэнцыя**

Першы дзень на італьянскай зямлі правялі мы ў сталіцы Тасканы — Фларэнцыі. Гэты старажытны горад заснаваны яшчэ Юліем Цэзарам у 59 годзе да нашай эры. Фларэнцыя — гэта італьянскія Афіны, калыска Рэнесансу, адзін з найбольш цэнных архітэктурных помнікаў свету.

Пазнаёміліся мы з раманскім баптыстэрыем з XI ст., у якім знаходзяцца славутыя Райскія вароты. Мікеланджэла, убачыўшы іх, сцвердзіў: „Толькі яны могуць быць варотамі ў рай".

**Асізі**

Італьянскі горад Асізі ў вобласці Умбрыя, маляўніча распалажаны на схіле ўзвышша, з'яўляецца турыстычным і культурна-рэлігійным асяродкам. Знаходзяцца тут раманскі сабор св. Францішка (XIII ст.), гатычны кляштар і касцёл францысканцаў са славутымі фрэскамі Джота, касцёлы XIII і XVI стагоддзяў, замак (XIV ст.).

**Рым**

Уязджаем у Рым, Вечны горад, сталіцу свету. Горад багаты гістарычнымі, мастацкімі і духоўнымі вартасцямі. Мінаем новы квартал горада пабудаваны Мусалінім і муры Аўрэлія — граніцу старажытнага Рыма. Апіевай дарогай дабіраемся да катакомбаў св. Калікста. Катакомбы складаюцца з чатырох ярусаў надта доўгіх калідораў. Узніклі яны ў II ст., як афіцыйныя могілкі першых рымскіх біскупаў і першых хрысціян. Захаваліся тут цікавыя фрэскі з VI ст.

Знаёмімся са старажытным кварталам горада — Форум Раманум, які многія стагоддзі быў месцам, дзе канцэнтравалася ўся дзейнасць рымлян. Захавалася тут святыня Сатурна з васьмю гранітнымі калонамі (497 год да нашай эры). У падножжа Палаціна стаяць тры высокія карынфскія калоны святыні Кастара і Полукса з 484 г. да н.э. Пасярэдзіне форума ўзвышаецца арка Ціта, пабудаваная ў I ст. н.э.

**Ватыкан**

Горад-дзяржава ў заходняй частцы Рыма, рэзідэнцыя папы рымскага. Плошча Ватыкана 0,44 км$^2$. Найбольшай цэннасцю Ватыкана ёсць ансамбль Адраджэння XV—XVII стагоддзяў — Сабор і плошча св. Пятра. Сабор св. Пятра з'яўляецца манументальнай будыніай даўжынёю 210 м, шырынёю 137 м і 137 м вышыні ў купале, пабудаванай Мікеланджэлам.

На плошчы св. Пятра прымалі мы ўдзел у генеральнай аўдыенцыі ў папы Яна Паўла II.

**Монта-Касіна**

Пад стромкім узвышшам у даліне ракі Ліры распалажаны горад Касіна. На вяршыні ўзвышша Монта-Касіна знаходзяцца бенедыктынскі кляштар і сабор, зруйнаваныя падчас вайны і рэканструяваныя ў 1950—54 гадах.

На скаце ўзвышша Монта-Касіна заснаваны польскія ваенныя могілкі, на якіх спачывае звыш тысячы польскіх жаўнераў.

На гэтых могілках знайшоў я 61 магілу, у якіх спачываюць пад праваслаўнымі крыжамі загінуўшыя жаўнеры II польскага корпуса. Знаходзяцца тут магілы трох загінуўшых беластаччан: Караля Семенюка, Юльяна Матушэўскага і Вінцэнта Яроцкага.

**Венецыя**

Адзін з найпрыгажэйшых гарадоў свету, заснаваны ў IX стагоддзі. Першае ўражанне ахопліваючае тут кожнага прыезджага гэта паўсюдна адсутнасць вады. Венецыя быццам з вады вырастае. Яе будыніны стаяць на малых выспах, узмоцненых тысячамі паляў убітых у падмоклы грунт. Горад размешчаны ў лагуне на 118 астравах, мае больш за сто каналаў і 400 мастоў.

Пакінуўшы аўтобус на ўзбярэжжы, галоўнай артэрыяй Венецыі, Каналам Грандэ адплываем маторнай лодкай. Мінаем элегантныя сядзібы даўніх патрыцыяў, прыгожыя палацы, касцёлы і незлічоныя гандолы. Пасля паўгадзіннага плавання сыходзім на плошчу св. Марка, з аднайменным саборам, упрыгожаным мазаікай. З маляўнічай Венецыі пасля двухдзённага падарожжа (з перапынкам на начлег у гасцініцы пад Браціславай) даволі змучаныя, аднак вельмі задаволеныя, з аграмадным багажом уражанняў вяртаемся мы шчасліва ў Беласток.

**Віктар ШВЕД**



*Аўтар на фоне Калізея — сімвала веліччы і магутнасці Рыма.*

# У Відаве

У Відаве пракладаецца цяпер водаправодная і каналізацыйная сеткі. Працы пачаліся ў снежні мінулага года, а заканчэнне плануецца на канец лістапада г.г. Выканаўцам інвестыцыі з'яўляецца Прадпрыемства інжынерных работ з Беластока, а ў вёсцы працуе 14 асоб. Відаўскія гаспадары заплацілі па паўтары тысячы злотаў, а цэлае мерапрыемства мае каштаваць адзін мільён.

* * *

Наведаў я таксама камбікормавы завод; спаткаў там толькі кіраўніка.

— Ведаеш, Андрэй, — сказаў ён, — калісь выпускалі мы па сорак тон сухіх кармоў, працавалі ў дзве змены. А сёння тут сядзімо, як сторажы зарастаючых крапівою складоў. Старыя машыны не даюць прадукцыі...

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

# „Wspólnota kulturowa '97"

W dniach 20-23 listopada 1997 r. Ośrodek Kultury „Arsus" organizuje VI Ogólnopolski Przegląd Dorobku Artystycznego Mniejszości Narodowych i Etnicznych.

„Serdecznie zapraszamy twórców, poetów, plastyków, zespoły wywodzące się z kręgu mniejszości narodowych do udziału w przeglądzie. Warunkiem uczestnictwa jest przesłanie na adres organizatorów karty uczestnictwa najpóźniej do 10 września br. Organizatorzy zapewniają jeden nocleg i jeden posiłek dziennie".

Informacji udziela:
**Ośrodek Kultury „Arsus"**
**02-495 Warszawa,**
**ul. Traktorzystów 14**
**tel. 6673454**

# Радзіма — Родзіна

**Дадатак I**

Рыхтуючы да друку цыкл „Радзіма — Родзіна" я пастанавіў пачаткова не далучаць да яго выказванняў уніяцкага святара дырэктара Скарынінскай Бібліятэкі і Музея ў Лондане Аляксандра Надсана. Мой пачатковы намер вынікаў з таго, што я не ведаў як аднясецца да друку сам святар Аляксандр Надсан. Па-другое, друкуючы свой цыкл, я стараўся, каб змясціць у ім выказванні супрацьстаўныя і ў адносінах да сябе палемічныя. Друкуючы меркаванні святара Аляксандра Надсана я мусіў бы адступіць ад гэтага прынцыпу з тае прычыны, што мне не ўдалося правесці паглыбленых размоў з духоўнымі прадстаўнікамі іншай чым уніяцкая канфесія. Тое, што мне ўдалося зрабіць у гэтай галіне было надзвычай сціплае, фрагментарнае і па-свойму значна другараднае. І ўсё ж такі прадумаўшы справу, пастанавіў я апублікаваць тое, што пачуў ад айца Аляксандра Надсана з надзеяй, што быць можа прадстаўнікі іншых веравызнанняў, якія існуюць на Беларусі, схочуць выказаць свой пункт гледжання на тэму Радзімы і яе значэння ў іх пастырскай дзейнасці. Што датычыцца айца Аляксандра Надсана, дык я сутыкнуўся з ім першы раз у 1978 годзе, калі яшчэ моцна трымаўся ў нас і ў Савецкім Саюзе сацыялізм і не было сімптомаў таго крызісу, які ў наступных гадах прычыніўся да поўнага краху гэтай фармацыі. Святар Аляксандр Надсан гэта чалавек выключных арганізацыйных здольнасцей, выключнай ахвярнасці і выключнай адданасці ідэі незалежнай Беларусі. Мае размовы са святаром Аляксандрам Надсанам нагогул цягнуліся сотні гадзін. Нешта такое сталася магчымым таму, што ў беларускім цэнтры ў Лондане быў я каля дзесяці разоў, а прача гэтага з гэтым святаром сустракаўся я не адзін раз і ў Мінску.

Быць можа, што ў каго-небудзь узнікне здзіўленне — як гэта вольнадумец Аляксандр Баршчэўскі знаходзіць супольнасць з чалавекам глыбокай рэлігійнасці Аляксандрам Надсанам. Думаю, што нас у аднолькавай ступені характарызуе талерантнасць, у аднолькавай ступені спалучае гарачая і непадкупная любоў да Беларусі. У нашых кантактах ніхто не стараўся нічога выйграваць для сябе. Як пажылыя людзі і дзеячы стараемся зрабіць усё магчымае для ідэі незалежнае Беларусі. Думаю, што і Ён і я ў аднолькавай ступені голасна сцвярджаем, што нашы дасягненні ў гэтай галіне моцна нездавальняючыя.

Пераходжу да найважнейшых выказванняў святара Аляксандра Надсана перад 1990 годам, гэта значыць перад абвяшчэннем дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі.

„Ні біскуп Сіповіч, ні я — не палітыкі. І хаця саветы робяць усё, каб даказаць, што мы і наша уніяцкая канфесія служым палітыцы амерыканскага імперыялізму, але маем тут дачыненне не з праўдай, а толькі з савецкімі містыфікацыямі, якія не маюць нічога супольнага з праўдай. Можна было б спытаць, чаму саветы з такой нянавісцю адносяцца да нашай рэлігійнай дзейнасці? А таму, што наша дзейнасць мае нацыянальны беларускі характар. Мы не верылі і не верым у савецкія псеўдатэорыі аб тым, што будзе на свеце адна камуністычная фармацыя, што будзе на свеце адна мова і што так, як пішa Максім Танк, усе людзі на свеце будуць камуністамі. Нешта такое мела б пачварны характар і я веру, што да здзяйснення гэтага не дапусціць Бог і не дапусцяць людзі. Адкуль бярэцца такая нянавісць саветаў да нашай дзейнасці? Адтуль, што мы робім усё магчымае, каб даказаць, што падзел свету на народы, на дзяржавы і на нацыянальныя мовы — гэта падзел разумны і непазбежны. Ну і вядома, што нашае мысленне ідзе ў разрэз з імкненнем саветаў да палітычнай, дзяржаўнай і моўнай рускай дамінацыі над светам. Вядома, што інтэлектуальныя, культурныя, духоўныя і матэрыяльныя здольнасці людзей могуць развівацца ў вольных дэмакратычных нацыянальных дзяржавах, а не ў нейкай пачварнай адной савецкай, камуністычнай дзяржаве, на чале якой будзе стаяць жменька камуністычных алігархаў.

З гэтага, што я тут сказаў, можа вынікаць, што мы тут сапраўды займаемся палітыкай. Але гэта не так. Да такіх разважанняў прымушае нас толькі савецкая экспансія, якую адчуваюць беларусы ва ўсім свеце. Адчуваем мы яе балюча і тут у Англіі. І таму мусім бараніцца. Аднак не палітыка, а толькі боская навука складаюць на істоту нашай дзейнасці. Паслухайце нашых пропаведзей, пачытайце нашы рэлігійныя выданні, а самі пераканаецеся, што для нас найважнейшая рэлігійная духоўнасць і гатоўнасць служыць беларускай нацыі".

**Алесь БАРСКІ**

 

# Парнасік

### Беларуская мова

Гэты мой спеў аб беларускай нашай мове,
Роднай ды простай, як надзёнlittleны хлеб,
Зямля, ручнік ільняны, як здароўе,
Як саха дзедава, як дзедаў цэп.

Як загон прадзедаў, як родненькая хата,
Памяць аб гэтых, што ўжо адышлі,
Пражыўшы на зямлі ці бедна, ці багата,
Можа дзе там спакой сабе знайшлі.

Што нам засталося ад іх, мяне хвалюе,
Як продкаў спадчыну мы абераглі.
Можа ўжо сёння позна мы шкадуем,
Што захаваць нямнога мы змаглі.

Даўняй культуры апошнія ўжо астанкі
Ледзь крыху памятаем як праз сон,
Як леташнюю пагоду ці маланку,
Як ад царквы далёкі, ціхі звон.

Што нам засталося да сённяшняй пары?
Акрамя мовы ўжо нічога больш,
Ды толькі там, дзе сялянскія жыхары.
Ды толькі ў сэрцы вось пачуеш боль.

А мову гэту пачуеш толькі між сваімі.
Ніхто больш яе не шануе, дзе ні глянь.
Ужо толькі ўжываецца яна паміж старымі
Ў вёсках, дзе пануе глухамань.

У горадзе сароміцца ўжо мовы моладзь,
Пакінула яе, ледзь толькі села ў „бус".
Цікаўшы ёй, чым беларускі голас,
Калі прамовіць англічанін ці француз.

Свая — напэўна — непрыгодна дыпламатам,
Што ж ім казаць, дзе ж з ёю ім пайсці?
Яна не прызнаецца нават рускім братам.
Дзе яе будучыня? Як ёй не сысці?

**Уладзімір Сабяшук**

### Рада ў раду

Салавейка сеў на дрэўка
Ды шчабеча да мухі:
— Ой куды мне паляцець,
Каб пазбегчы завірухі?
На захад не паляціш,
Нас там не прымаюць.
А кажуць, што там галушкі
Як манна спадаюць.
Думаў, палячу на ўсход,
Але ж асцерагаюць;
Жаваранак мне казаў,
Што там хлеба не маюць.
На поўдзень каб паляцець,
Аб гэтым усе знаюць,
Што за кавалачак зямлі
Усіх нас там праклінаюць.
На поўнач не палячу,
Бо я холаду баюся.
Паўміраюць мае дзеткі.
Сам не разжывуся. —
У альшынавым лесе
Сам мядзведзь адгукнуўся,
Сход звярыны загадаў
Ды сам сабой хваліўся:
— Я калісь на дрэва ўлез,
Стаў мёд выбіраці.
Пчолы, тая свалата,
Сталі мяне кусаці.
З дрэва я тады ўпаў
І вельмі пабіўся.
Цяпер хачу, каб мой рух
Лепей сам адрадзіўся.—
Качка кліча качанят
І хітра вокам водзіць,
У галовы ім дзяўбе:
— Дзесь ліса тут ходзіць. —
Хрэн у чыстым полі
Сваю радню збірае,
З крапівой ды асотам
Еднасці шукае.
— Мае мілы брачкі,
Сястрычкі ды дочкі,
Трэба нам з'яднацца
Ды моцна трымацца,
Каб у альшынавым лесе
Звярам не паддацца.
Качку выгнаць з луга:
Хай вады не муціць
Ды сваім качаняткам
У галовах не круціць.
З пад карча ды явара
Лісу трэ прагнаці,
Тады будзе лепей
Нам еднасць трымаці.

**Мікалай Лук'янюк**

### Мокрае лета

Сухое лета — дрэнна,
Але жыць можна пасрэдна.
Мокрае лета — бяда, гора;
Хмары і дождж безупынна ад мора.
Затапіла вялікую частку Польшчы,
Урон вялікі і горшы:
Праліўныя дажджы ізноў ідуць
І людзям жыць не даюць.
З берагоў выступаюць многія рэкі,
Стыхія паўтарылася спрадвеку.
Ваду стрымаць цяжка, каштоўна;
Нясецца яна бурліва, пеніста і роўна.
Толькі ў бядзе людзі становяцца сваякамі,
Блізкімі; амаль сёстрамі і братамі.
Супольнае гора ўсіх яднае
І на гераізм і подзвіг падымае.
А калі добра, раскошна жывецца —
Чалавек з чалавекам за пустэчу часта б'ецца.
Як гэта можна зразумець?
Любоў і спагаду заўсёды трэба ў сэрцы мець!
Мокрае лета — як сабраць ураджай,
Калі ў стыхійнай бядзе цэлы край?
Усім мабілізавацца і несці дапамогу,
І толькі ў адзінстве і дружбе знойдзем дарогу.
Трэба за рукі з любоўю ўзяцца
І цесна, па-брацку прыжацца!

**Мікалай Панфілюк**

### Іду

Іду вузкаю сцежкай.
Уецца, як змяя.
На ёй камяні,
Цяжка іх мінаць.
Абысці іх нельга,
Трэба пазбіраць і
Кінуць на аблог.
Цяжкая работа,
Але без яе
Не дайсці да мэты.
Можа дзе ў свеце
Ёсць лепшыя сцежкі,
Гладкія дарогі,
Аблогаў няма, толькі
Усюды кветкі і сады.

**Аўрора**

### Усяляк бывае

У жыцці ўсяляк бывае,
Ёсць вяселлі і запусты.
Адзін чалавек багаты,
Другі зусім пусты.
Адзін верыць у любоў
І яе чакае,
Другі кажа: грошы, грошы,
Бо любві не мае.
У адных ёсць час працы
І час адпачынку.
А другія мучацца дзень і ноч
Без перапынку.
Хтось працуе,
Яго пот шанаваці будуць.
Іншаму ўсё забяруць
І яго забудуць.
Але адным і другім
Адзіная дарога:
Больш чым людзей,
Трэба слухаць Бога.

**Мар'я Пень**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне нядаўна нязвыклы сон, пра які я і хачу табе расказаць.

Быццам я знаходжуся ў нейкім незнаёмым памяшканні, але гэта нібы мае быць мая новая кватэра. Шырачэзны калідор, немалыя пакоі. Я хаджу па гэтай кватэры, аглядаю яе.

Пасля я ўжо на вуліцы. А тут рынак, на якім мноства гародніны, усякіх тавараў. Мне на рынак не трэба, бо я не збіраюся нічога купляць. Але мне трэба праз яго прайсці. А тут так цесна. Я ледзь праціскаюся праз вузкія праходы паміж лаўкамі з таварам.

Выходжу на нейкае поле. Вялізнае поле, а на ім уздоўж і ўпоперак бегаюць, скачуць розныя невялікія звяркі. Найбольш выразна бачу зайцаў, нейкіх худых — расцягнутых у позе скачка, а таксама лісоў з рыжымі хвастамі. Усе звяры знаходзяцца ў руху.

І раптам бачу вялізнага вусеня, велічынёю мо, як нейкі заяц, які кідаецца на мяне. Ён даволі прыгожы, махнаты, у чорна-карычневую палоску, але я яго вельмі баюся. Трэба бараніцца! Дык я пачынаю кідаць у гэтага вусеня каменнем. Камяні вялікія, амаль такія, як меншы гарбуз. Адзін камень трапляе ў таго вусеня-страшыдла. Прачынаюся з палёгкай, але без упэўненасці, што вусень больш на мяне не скочыць. Чаго чакаць, Астроне?

**Ганна**

Ганна! Твой сон абазначае нейкія перамены ў тваім жыцці (першая частка), але ў сувязі з імі будуць у цябе нейкія цяжкасці (другая частка сну), а нават непрыемнасці, вынікнуць пры гэтым прыкрыя справы (трэцяя частка сну). Паколькі, аднак, ты прыбіла таго вусеня-страшыдла, які кідаўся на цябе, можна меркаваць, што неяк усё-такі зможаш перамагчы ўсе беды. Гэта прадвяшчаю табе я, стары

**Астрон**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. узвышша, з якога выплываюць Волга, Дзвіна і Дняпро, 7. Роберт, амерыканскі рэжысёр (1884—1951), 8. Абель, галандскі мараплавец, даследчык Фіджы і Тасманіі (1603—59), 9. кавалак разбітай пасудзіны, 10. зорка ў сузор'і Валапаса, 14. горад у В'етнаме, 18. епіскап, 19. горны масіў у Венгрыі, 20. Хуан, прэзідэнт Гватэмалы ў 1945—51 гг., 21. жывапісец або графік.

**Вертыкальна:** 1. Аўгуст, нямецкі драматург і акцёр (1759—1814), 2. зімовы сорт яблыні, 3. рукакрылая жывёла, родная кажану, 4. Васіль, беларускі паэт (нар. у 1911 г.). 5. Язэп, беларускі мовазнавец і грамадскі дзеяч (1883—1940), 6. Жоржы, бразільскі пісьменнік, аўтар „Жубіабы", 11. Іаган, нямецкі пісьменнік (1763—1825), 12. азіяцкі галаўны ўбор, 13. Руслан, балгарскі кампазітар (нар. у 1919 г.), 15. надобрасумленная справа, 16. ансамбль з васьмі чалавек, 17. Яраслаў, чэшскі пісьменнік, напісаў „Прыгоды ўдалага ваякі Швейка". **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 26 нумара**

**Гарызантальна:** ясак, цыган, аблава, Амур, тарыф, атрута, суглінак, кабан, настурка, алебастр, марка, рамантык, кашара, шрыфт, тлум, ракако, ягуар, раса.

**Вертыкальна**: дынама, Ларыса, сімулянт, Каран, клерк, свята, фундатар, Тахтамыш, квач, буер, Трыр, Таха, Аранхуэс, акруга, кафтан, хабар, раман, матор.


# Ніва

„**Niwa**", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.




 

## Чатырохрадкоўі

Ад ліцэіста ліцэіст
Вучыўся выкаблучваць твіст.
Пачуўся свіст ад гітарыста:
Не затапчыце „полькай" твіста.

* * *

Спіхнулі сына ў інстытут —
Пабольшала ў сям'і пакут,
Бо за яго, як Барана,
Расла ў выкладчыкаў цана.

* * *

Глухі сляпому пра рыбалку
Хвалебную замовіў байку.
Што адказаў сляпы глухому,
Яно і сёння — невядома.

* * *

У лесе стрэліў паляўнічы,
Перапалохаў лес звяроў.
Хутчэй цікай! — пакуль дзік лычам
Цябе на хвойку не ўспароў!

**Алесь Пісарык**

# Ніўка




Мал. Алега КАРПОВІЧА

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутарка маладажонаў падчас пасляшлюбнага падарожжа:

— І што цяпер, дарагая, думаеш пра замужжа?

— Гэта штосьці цудоўнае і незабыўнае, — адказвае жонка, а пасля хвіліны пытае: — Ці так будзе аж да самога разводу?

* * *

Маладажоны глядзяць меню ў рэстаране.

— І што ты сабе выбрала, дарагая? — пытае ён.

— Ты ж сам ведаеш, што я найбольш люблю!

— Ну, так... Дык жа час ад часу трэба нешта з'есці.

* * *

— Патрабую новыя сукенкі! — турбуе жонка мужа. — Не маю што на сябе налажыць...

— Як жа гэта так? Вунь жа цэлая шафа сукенак...

— Але ў кожнай з іх бачылі ўжо мяне нашы знаёмыя...

— Ведаеш: хіба танней будзе нам памяняць знаёмых.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Эх, Сэрцайка, Сэрцайка! Чаму ты заўсёды бароніш баб? Або ты жыцця не ведаеш, або не хочаш прыняць да ведама рэчаіснасці...

Калі дазволіш, раскажу табе, якія бываюць бабы на прыкладзе маёй жонкі (першай). Вядома, я цяпер жанаты другі раз, але толькі той, хто не ведаў майго кашмарнага жыцця, можа сказаць, што я зрабіў гэта з распусты.

Мая першая жонка — алкагалічка. У іхняй сям'і ўсе пілі, а найбольш бацька. Адкуль я мог гэта ведаць, калі ніхто мяне не папярэдзіў?! Дзяўчына была прыгожая, статная. Мне яшчэ не было дваццаці гадоў, калі нарадзілася першае дзіця. Пасля — яшчэ трое.

Я думаў, што наша сям'я будзе прыкладна выхоўваць дзяцей, а людзі нам будуць зайздросціць. Я быў малады і дурны. Маю жонку ад пачатку цягнула да алкаголю. А найахвотней піла яна спачатку са сваім родным бацькам. Я думаў так: калі п'е з бацькам, дык гэта яшчэ можа быць. Усё ж такі гэта адбываецца ў маёй хаце, або ў хаце яе бацькоў.

А пасля пачала яна знікаць на дзень, на два. Я прабаваў яе шукаць, але высветлілася, што гэта не такая простая справа. Піла яна з кім папала і кожны раз магла закончыць тую п'янку ў іншым месцы. Людзі падсмейваліся з мяне, калі я яе шукаў, а ніхто не падумаў, што тады тварылася ў маёй душы, не пашкадаваў мяне.

Жонка вярталася са сваіх эскапад, плакала і заракалася, што гэта ўжо апошні раз, што больш ніколі штосьці такое не здарыцца. Сэрцайка, я ж як казаў і было чацвёра малых дзетак...

Аднойчы звоніць яна мне на працу і кажа: сабака выкраў з гарышча ўсё мяса! Божачкі, што рабіць, праз два дні Каляды, у хаце ні граша, а ў апошні дзень ці купіш усё, што хочаш...

Мяне адразу цюкнула, што гэны „сабака" прадаў мяса, бо грошы былі патрэбны яму на гарэлку, але што зробіш, калі ў хаце чацвёра дзетак, якія чакаюць свята... Пазычыў я грошы ў майстра, пайшоў да знаёмай прадаўшчыцы ў прыватнай краме, а яна даслоўна падзялілася са мною тым, што пакінула сабе. Як жа было не накарміць прынамсі лепшым кавалкам мяса нашых дзетак... Ці ж яны прасіліся на свет?!

Я не мог пакінуць у хаце ні граша, усё яна знайшла б і аддала на алкаголь, але нават тады, калі я спаў, то яна патрапіла шнырыць па маіх кішэнях і схоўках у вопратцы.

Наступіў такі момант, што я ўжо не вытрымаў. Пачаў вазіць жонку па лекарах. Кожны, хто пачынаў яе лячыць, праз нейкі час гаварыў мне: найцяжэй вылечыць з алкагалізму кабету.

І тады жонка сама сказала: давай выедзем адсюль! Паедзем туды, дзе ніхто нас не ведае. Можа там, дзе не будзе знаёмай кампаніі, я перастану піць.

Я з радасцю згадзіўся пераехаць на новае месца жыхарства. Думаеш, што гэта нешта дало? Кампанія, хацеўшы, заўсёды знойдзецца. Жонка не піла ў новым горадзе два тыдні, а пасля ізноў усё пачалося па-старому.

Мне было сорамна перад людзьмі, бо гэта быў мой родны горад. Спачатку мы жылі там, дзе жылі яе бацькі. Я думаў, што калі адарву яе ад алкагольных каранёў, дык скончыцца мой жыццёвы кашмар. Аднак жа ваўка цягнула ў лес.

Аднойчы суседзі пазванілі мне на работу, што жонка наняла два мэблевыя самаходы і выгружае ўсё з кватэры. Калі я падышоў да нашага блёка, ужо выносілі апошнія рэчы. Я толькі глянуў, завярнуўся і пайшоў. Скандаліць перад публікай не было сэнсу. Няхай бярэ што хоча і куды хоча едзе. Дзве дачкі былі ўжо замужнія, трэцяя дачка і сын вучыліся ў іншым горадзе.

Я пачаў абжывацца і купіў канапу ды два крэслы. Пасля гэтага мы развяліся. Цяпер, хаця ў мяне другая жонка і двое дзетак з ёй, то першая цешча наведвае мяне, як роднага сына. Першая жонка зусім распілася. Я нават ездзіў туды да яе (выехала яна назад у свой горад). Ужо хацелі яе за п'янства звольніць з працы, але я прасіў у шэфа, каб неяк датрымалі да пенсіі.

Але я цяпер шчаслівы. Здаецца, што ўсё тое было толькі страшным сном. Думаю, што апраўдваца няма патрэбы, што я ажаніўся. Кожнаму ў жыцці належыцца крышынка шчасця.

Вось бачыш, Сэрцайка, а ты бароніш баб...

**Павел**

... але не алкагалічак, Павел!

**Сэрцайка**

*У кіпцюрах цацерука*

## Невядомыя словы беларускай мовы

Жанчына была нішто сабе. Высокая, моцная, чарнявая. Агонь і таямнічы, саноўны холад. Калі трэба — абсабачыць, а калі трэба — прытуліць. Хаця чамусьці гэта першае значна часцей здаралася. Так і пачалі яе клікаць — ГРАД-ЗІНА.

Мужчыны праводзілі Град-Зіну зрокам, і не толькі зрокам, і ўсё далей і далей ад цэнтра мястэчка, у агароды, у цёмныя сцежкі, туды, дзе стадолы братаюцца з набухтораными сенам лугамі. Ніхто дакладна і не помніць, калі да Град-Зіны прычапілася мянушка — ДАЁНКА. Аб'ясняю, што да кароў ды малака ўспомненая мянушка ніякага дачынення не мае.

Апрача гэтага Зіна-САМАЛЮБ. Не думайце толькі, што яна эгаіст. О, не! Калі гадоў таму дзесяць прыехаў у мястэчка дзядзька Сам, Зіна закахалася. Шчыра, моцна, цэлым сваім амаль някранутым і мала без чаго дзявочым целам. Дзядзька Сам гэта ніякі нам дзядзька і абсалютна не Сам. Хведараў Сёмка зараз пасля вайны заблытаўся ў Амерыку і цяпер вось першы раз наважыўся наведаць пакінутую Бацькаўшчыну. Град-Зіне рэкамендаваўся як Сам, дык няхай так і будзе. Галоўнае, што „Фордзікам" дзяўчыну пракатаў і шырокія, амерыканскія перспектывы паказаў таксама. Хто яго ведае, мо калі б нешчаслівая і легкадумна не ажаніўся гэты Сёмка-Сам гадоў таму сорак, Зініны ногі тапталі б сёння нейкія санфранцыскаўскія бульвары.

Праляцеў месяц, Сёмка вярнуўся ў сваю Самаўшчыну, а Зіна асталася пакутаваць у нявдзейсненым Сама-любстве. Пакутавала амаль месяц, а доўгі аскетызм прыпячатвала паломніцтвам у нейкае святое месца, дзе доўга і шчыра малілася за ўсе ранейшыя грахі. Калі прыйшло месяцаў дзевяць, і калі нарадзіўся прыгожы хлопчык, так яго і назвалі ПАМОЛЬШЧЫК. Праўда, зняў тады Зінін татка свой СВІНАПАС (г.зн. доўгі кусок свіной шкуры) і адлупцаваў дачку, каб людзі не думалі, што сіратою жые яна. Але Памольшчык рос ужо. І далей расце, у школу ходзіць, і сябры ў яго не абы-якія: ПАЛЯСОЎШЧЫК (ягоную маці згвалтавалі ў лесе, і вось некаторае ўжо лета доўгімі днямі і адвячоркамі грыбы-ягады беспералынна збірае), ПАМОРАК — успамін дармовага працоўнага адпачынку ў Сочы, ды ягоны брат-блізнюк ПАКУПНІК. З гэтымі блізнюкамі атрымалася цікавая гісторыя. Ехала жанчына ў сваё лёсам і прафсаюзамі назначанае Сочы, і чалавек, як гэта ў дарозе бывае — прысеўся, і „купэ з табой на дваіх адно", і лета такое, што трэска на трэску ўзлазіць. Усё-такі ў Сочы раздзяліліся, каб ніколі больш і не сустрэцца.

А вакол пляж залаты і мора сіняе, і чэлесы бышцам адамаглёбусавым пяром напятыя, і прычапіўся чалавек добры, па прафесіі СКАНДАЛІСТ, г.зн. аматар скандынаўскага эратычнага кіно. Жылі-зажылі поўныя два тыдні. Апошняй ночы каханы прапаў, бы камень у мора.

Вярнулася жанчына дамоў, не скажу каб з нічым. Недзе пад Вялікдзень нарадзіліся блізняты. Муж, мо нат і цешыўся неспадзяваным прыбыткам, аднак паводзіў сябе так, каб ніхто гэтую радасць не прыкмеціў. Праўда, выпіў крыху, а потым сеў за руль і паехаў. І было дрэва, і шах, і АЎТА МАТ. У шпіталі абдумаўся. Жаночая нявернасць — гэта адно, а жыць трэба. Гэта другое. Аднак трываць пад жончыным абцасам — не, так далей быць не можа. І скочыў у палітыку. МАНІ-ФЭСТ наладзіў. Адзін, потым другі, трэці і г.д. А ўсе аднолькавыя, бы тая кропля вады. Ні разу не памыліўся — такі быў майстра! А прытым не быў гэта абы-які — камуністычны, дэмакратычны ці ліберальны маніфест. О, не! МАНІ-ФЭСТ гэта зусім апалітычная карціна, а чалавек, які яе адмаляваў, стаў вядомым на ўсю дзяржаву, на ўвесь свет, а нават у некаторых планетарных сістэмах галактыкі Альфа 2. І што тут здзіўляцца, калі ў рэшце рэшт папаў у КАБЛУК. Хай вам толькі не здаецца, што каблук гэта таксама нейкі абцас. КАБЛУК — гэта проста кабінет актуальнага прэзідэнта.

З галактыкай Альфа 2 таксама шчырая праўда. Калі на шашы між Гайнаўкай і Беластокам аварыйна прызямлілася круглае бы талерка НЛА, Яська якраз касіў траву. Кінуў Яська касіць і, спадзяючыся, што гэта ніхто другі, як толькі постсавецкія турысты з танным алкаголем, падаўся ў той бок, дзе мігцелі і бліскалі каляровыя пражэктары. Чалавечкі былі адзетыя неяк дзіўна — чорт ведае з якога фэсту пашанцавала ім учыцы — падумаў, усё-такі маршыраваў смела! І вось пачуў нечаканае „дарма Яську ходзіш", што не гавары — уверцюра да дваццаці трох першых МАНІ-ФЭСТАЎ. Зялёныя чалавечкі справіліся з аварыяй, спыталі пра дарогу ў галактыку Альфа 2, а адлятаючы заспявалі „Касіў Ясь канюшыну". Ясь, праўда, касіў звычайную, дзікую траву, але касмічны народ у такіх дробязях разбірацца неабавязаны.

Сяджу над вадою і думаю: „Як яно дзіўна ў жыцці бывае".

Хапае часу, каб задумацца. Плавок стаіць, калаўротак маўчыць, рыба не клюе.

Адно з самай раніцы ўчапіўся агідны ЖАБРАК. І кумкае. І ўзад паўзе. Дзіўнае стварэнне? Памылка натуры? Такі — як сказалі б палякі — РАК ФЭЛЕР.

**Міхась АНДРАСЮК**